# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 49 (2243) 5 снежня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.




Вось і наблізіліся мы ўшчыльную да выдатнай даты — 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Год прайшоў у падрыхтоўцы да юбілею, быў выкарыстаны на тое, каб людзі даведаліся новае з жыцця і творчасці паэта, адчулі, асэнсавалі веліч і каштоўнасць зробленага ім за кароткае яркае жыццё. Навукоўцамі і пісьменнікамі напісаны даследаванні, мастакамі — новыя творы, прысвечаныя класіку беларускай літаратуры. Святы прайшлі ў розных месцах краіны, дзе пралягалі жыццёвыя сцежкі Максіма Багдановіча: у Ракуцёўшчыне, Яраслаўлі, у Ялце, Ніжнім Ноўгарадзе, зусім нядаўна ў Гродне.

НА ЗДЫМКУ: Дом-музей Максіма Багдановіча ў Гродне.

Фота Я. КАЗЮЛІ.



...Беларускія ўрачы паставілі беспамылковы дыягназ: у першакласніка з Гродна Андрэя Бралко лейкемія. Сучасны стан айчыннай медыцыны, асабліва адсутнасць сродкаў, не дазвалялі эфектыўна весці лячэнне. І тады юнага пацыента згадзіўся ўзяць да сябе прафесар з італьянскага горада Трыеста Марына Андаліна. У далёкую краіну Андрэй паехаў разам з маці — Данутай Станіславаўнай. Італьянскі дзіцячы ўрач зрабіў хлопчыку вельмі складаную аперацыю. Ён змог перасадзіць яму касцявы мозг, узяты ад маці. Пасля Андаліна сам адвёз Андрэя дадому, падстрахоўваючы свайго пацыента ад пабочных уздзеянняў.

Цяпер ужо можна не хвалявацца за здароўе юнага нашага земляка. Але трэба ўспомніць добрым словам і яшчэ людзей, што дапамаглі адолець бяду. Гэта — ансамбль «Харошкі». У час гастроляў па Італіі беларускія артысты зарабілі 30 тысяч долараў, якія потым перадалі ў фонд дапамогі дзецям Чарнобыля. Так што на гэтыя сродкі было праведзена лячэнне ў Італіі не толькі аднаго Андрэя.

НА ЗДЫМКУ: Марына АНДАЛІНА (справа) са сваім пацыентам Андрэем БРАЛКО і яго бацькамі — майстрам-пераплётчыкам Гродзенскага таварыства кнігалюбаў Данутай Станіславаўнай і ваеннаслужачым Іосіфам Тадэвушавічам.

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

# «...ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁСТАНЦЫЯ «СВАБОДА»

На Брадвей у Нью-Йорку, дзе знаходзіцца радыёстанцыя «Свабода», мы прыехалі з самай раніцы. Спадар Янка Запруднік, як заўсёды, — на працу, я — на экскурсію, ці, як бы гэта больш дакладна сказаць: паглядзець, як працуюць калегі, пагутарыць з імі. (З роднай савецкай прэсы мала чаго можна было даведацца пра «Свабоду», акрамя хіба таго, што тут працуюць «акулы імперыялізму», «агенты ЦРУ», «ідэалагічныя дыверсанты», «нацыяналісты розных масцей»).

...Мажны паліцэйскі на ўваходзе, які павінен быў, па маіх уяўленнях, запатрабаваць дакументы ў незнаёмага чалавека, пропуск ці хаця б пацікавіцца, куды мы накіроўваемся (па аналогіі з працэдурай уваходу на наша Дзяржтэлебачанне), без усялякай падазронасці абыякава праводзіў позіркам.

Спадар Запруднік, як усё роўна прачытаў па вачах пытанне, заўважыў: «На «Свабоду» ўваход свабодны».

У даволі вялікім кабінеце спадара Запрудніка, супрацоўніка беларускага аддзела радыё «Свабода», усё прыстасавана для грунтоўнай працы, усё пад рукамі: тэматычныя, аўтабіяграфічныя даведнікі, мастацкая літаратура, часопісы, газеты, шматлікія інфармацыйныя бюлетэні. Сюды Янка Запруднік прыйшоў працаваць у канцы 50-х гадоў. Тут, у гэтым кабінеце, пісаў свой «дактарат» — доктарскую дысертацыю на тэму «Палітычнае змаганне за Беларусь у Дзяржаўных Думах Расеі ад 1906 па 1918 гады». Тут ім падрыхтаваны сотні перадач на самыя разнастайныя тэмы. А сёлета Янка Запруднік вырашыў пакінуць журналісцкую працу, бо хоча сур'ёзна заняцца даследчыцкай. Ужо падпісаны кантракт з амерыканскім выдавецтвам на кніжку «Беларусь паміж Захадам і Усходам», і трэба тэрмінова брацца за работу. Гэтыя летнія дні для яго, напэўна, нейкі пераходны перыяд, так бы мовіць, адаптацыя да новай якасці. Ёсць трохі вольнага часу. Ну, а для мяне цудоўная магчымасць атрымаць адказы на свае пытанні.

— Як я трапіў на «Свабоду»? Тут няма ніякіх сакрэтаў. Але дзеля гэтага перадгісторыя. Родам я з мястэчка Мір, скончыў там пачатковую школу. А тады, каб мяне, рослага падлетка, насільна не забралі служыць у паліцыю немцы, пайшоў вучыцца ў прагімназію ў Баранавічах. У часы нямецкай акупацыі там працавалі медыцынская школа, тэхнічная, гандлёвая... Вучоба давала магчымасць ухіліцца ад вывазу ў Германію. Са школаў так не хапалі. Прынамсі, у Баранавічах. Партызанамі ж было забаронена хадзіць у якую-небудзь школу вышэй пачатковай. Таму ўсе, хто вучыўся, быў ужо злачынцам, здраднікам у іх вачох — ім пагражала турма.

Школьнікі належалі тады да Саюза беларускай моладзі. Што гэта была за арганізацыя? Гэта была спроба беларускага настаўніцтва даць патрыятычнае ўзгадаванне нашай моладзі. Трэба ж было неяк выжыць у тых умовах нямецка-фашысцкай акупацыі. Значыцца, скончыўшы

(Заканчэнне на 6-й стар.).

АФІЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ

## З ДЭЛЕГАЦЫЯЙ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА

Праблемы Чарнобыля былі ў цэнтры ўвагі 26 лістапада на сустрэчы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча з дэлегацыяй еўрапарламента.

Міжнародны чарнобыльскі праект МАГАТЭ, заявіў Станіслаў Шушкевіч, па некаторых пазіцыях не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі.

Кіраўнік дэлегацыі еўрапарламента Кенет Коўтс адзначыў, што, дзякуючы візіту, ён і яго калегі даведаліся даволі многа аб галоўнай праблеме Беларусі. І, нягледзячы на тое, што яны прадстаўляюць у еўрапарламенце розныя партыі і розныя дзяржавы, «прыйшлі да адзінай думкі, што неабходна сур'ёзна дапамагчы Беларусі». Перш за ўсё яны маюць намер «звярнуцца з адозвай да членаў еўрапарламента аказаць максімальную дапамогу для вырашэння чарнобыльскіх праблем». «Мы будзем стаяць адзіным фронтам», — падкрэсліў Кенет Коўтс.

Аднак наладзіць прамыя масты будзе няпроста. Члены еўрапарламента пацвердзілі сваё жаданне і ў далейшым арыентавацца на цэнтральныя структуры Саюза, яны лічаць за лепшае мець справу з адным партнёрам.

Кіраўнік беларускага парламента назваў іх высакароднымі, але наіўнымі людзьмі, паколькі няма ніякай упэўненасці, што беларуская доля дапамогі, паступаючы ў рэспубліку пры пасрэдніцтве «чыноўнікаў з цэнтральных структур», прыйдзе без істотных страт. Ён гарантаваў ад імя Вярхоўнага Савета, што «кожны долар, накіраваны ў рэспубліку для гэтых мэт напраму, паступіць па прызначэнню».

КАМЕРЦЫЯ

## АМЕРЫКАНЦЫ Ў БРЭСЦЕ

Атрымалі акрэдытацыю і адкрываюць свае прадстаўніцтвы ў Брэсце вядомая амерыканская фірма «Элегант лоджык» і польскае вытворча-гандлёвае прадпрыемства «Трыцікум». Калі першша планые пастаўляць агратэхніку, то суседзі з-за Буга—высакаякасную муку ўзамен мінеральных угнаенняў. Яны таксама маюць намер стварыць сумеснае прадпрыемства з калгасам-камбінатам імя Дзяржынскага Кобрынскага раёна, дзе будзе арганізавана поўнасцю безадходная вытворчасць перапрацоўцы зерня і выпуску мукі з мясцовай сыравіны.

ПРОСЯЦЬ АБАРАНІЦЬ

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

«Мы спадзяваліся, што прадстаўнікі БЗВ у арміі будуць супрацоўнічаць з камандаваннем, але пры аналізе падзей апошняга часу ствараецца такое ўражанне, што камандзіры некаторых часцей і злучэнняў Беларускай ваеннай акругі пачалі спланаваную кампанію супраць БЗВ, у арміі распаўсюджваецца інфармацыя, што наша арганізацыя з'яўляецца ледзь ці не фашысцкай і быццам бы ставіць сабе мэтай выцясненне афіцэраў-небеларусаў з Беларусі». Гэта радкі з Адкрытага ліста Каардынацыйнага камітэта патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча. У лісце прыводзяцца шматлікія прыклады праследаванняў прыхільнікаў БЗВ. «Мы лічым, гаворыцца ў пісьме, што Вярхоўны Савет, улады, грамадскасць рэспублікі павінны абараніць ваеннаслужачых-патрыётаў, якія заклапочаны бяспекай свайго народа. Мы лічым, што праследаванні членаў БЗВ з'яўляюцца часткай больш шырокай кампаніі, накіраванай супраць выканання пастановы ВС Рэспублікі Беларусь «Аб стварэнні Узброеных Сіл РБ».

КАЛГАСНЫ ЦЭХ АБУТКУ

**Свой спосаб вырашэння праблемы дэфіцыту абутку выбралі на эксперыментальнай базе «Жодзіна» Мінскай вобласці. Тут выдзелілі памяшканне, знайшлі спецыялістаў і адкрылі абутковы цэх. За сыравінай далёка хадзіць не давялося: больш па-гаспадарску сталі выкарыстоўваць «адходы» ўласнай вытворчасці.**

**Цяпер калгасныя майстры шыюць туфлі трох мадэляў, асеннія боты. Наладжваецца выпуск зімовага абутку. У месяц цэх будзе выраблядь да 400 пар.**

**НА ЗДЫМКУ: работніца цэха Т. ШАЛАК дэманструе абутак, які вырабляюць у калгасным цэху.**



БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ



**Як мы ўжо паведамлялі, у Рэспубліцы Беларусь прайшоў XVIII Усесаюзны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень». Адкрылася свята выступленнем Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра рэспублікі (на здымку) у канцэртнай зале філармоніі.**

*«Мы спадзяёмся, што наступіла магчымасць сапраўднай перабудовы і адраджэння нашай Бацькаўшчыны і народу. Неабходна зьмяніць эканамічную сістэму, базуючы яе на прыватнай уласнасьці, вытворчасьці і свабодным гандлі. Трэба людзям даць ініцыятыву, каб яны самі маглі думаць і рашаць справы, а ня толькі рабіць па ўказаньнях згары.*

*Гэтыя перамены на лепшае павінны пачацца ад душы народа, ад паглыбленьня веры, маралі, нацыянальнай сьвядомасьці і чалавечай годнасьці. Народу трэба вярнуць яго родную мову і яго ідэнтычнасьць своеасаблівасьць. Трэба неадкладна ўвясьці беларускую мову ва ўсе навучальныя ўстановы, радыё, тэлебачаньне, адміністрацыю, прадпрыемствы, а ў першую чаргу па-беларуску павінны загаварыць у парламенце дэпутаты Беларусі.*

*У часе апошняй вайны беларусы пад мецкай акупацыяй сумелі ўставіць свае ўрады, школы і прэсу. А за апошніх пяць гадоў перабудовы, прагалошаньня незалежнай Беларусі і ўвядзеньня Закону аб беларусізацыі да гэтага часу нічога паважнага не было зроблена. Замест таго, каб пашырыць беларускую прэсу, некаторыя беларускія выданьні перайшлі на расейскую мову. Ці-ж гэта ня сорам беларусам у краі!*

*Шырокае поле дзеяньня і шмат праблемаў да пераадоленьня стаяць перад нашым народам. Ня лёгка будзе ўсё адразу асягнуць, але ўсё гэта ёсьць неабходнае, каб паставіць наш народ на ўзровень свабодных эўрапэйскіх дзяржаў.*

*На гэтым шляху важным ёсьць, каб людзі ведалі мэту свайго намаганьня, што яны робяць і да чаго ідуць. Патрабуецца зразуменьня таго, што ніхто нам нічога ня дасьць і нічога ня зробіць дарма, калі мы самі сабе нічога ня зробім».*

*(«Голас часу», Лондан).*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● На канферэнцыі ў Балтыморы (ЗША), прысвечанай праблемам кіравання адукацыяй, выклікала цікавасць выступленне загадчыка кафедры Беларускага рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў — Юрыя Загуменнага. Беларускі навуковец атрымаў запрашэнне ад некалькіх універсітэтаў ЗША выступіць з лекцыямі.

● У Мінску, на вуліцы Якуба Коласа, 43, звычайную аптэку, дзе, як і ва ўсіх сталічных аптэках, не знайсці было нават аспірыну, перарабляюць на незвычайную. У ёй будзе поўна імпартных лекаў, але прадавацца яны будуць... за валюту. Зноў бог не роўна дзеліць?

● У зале пасяджэнняў гарвыканкома Мінска сцяну «ўпрыгожваў» гарэльеф У. І. Леніна. Нядаўна ён таямніча знік, а на яго месца прымацаваны герб сталіцы з вывявай Дзевы Марыі. Як сведчаць людзі кампетэнтныя, аперацыю гэту правялі падсобныя рабочыя.

# 1000-годдзе ПОЛАЦКАЙ ЕПАРХІІ

### З КАМЮНІКЕ НАВУКОВАГА КАЛЁКВІУМА БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

У пачатку лістапада ў Мінскім Епархіяльным Упраўленні адбыўся навуковы калёквіум, на якім былі зроблены паведамленні і адбылася дыскусія па пытанню аб пачатку Полацкай епархіі. Адкрыў калёквіум мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, у рабоце прынялі ўдзел іншыя святары, вучоныя — гісторыкі, філолагі, археолагі.

Найбольш верагоднай датай заснавання Полацкай епархіі называецца 992 год. І меркаванне гэта пацвярджаецца гістарычнымі крыніцамі і даследаваннямі вучоных. У вядомых нам летапісах першы епіскап, які насіць тытул Полацкага, упамінаецца недзе ў 1105 годзе, гэта епіскап Міна. Імёны тых, хто быў перад ім, невядомы, аднак ёсць дастаткова доказаў, што яны існавалі. На думку доктара гістарычных навук прафесара І. Штыхава, хапае даных, каб сцвярджаць, што хрысціянства ў Полацку было прынята прадстаўнікамі вышэйшай знаці хутка пасля хрышчэння і ўвядзення новай веры ў Кіеве ў 988 годзе. Сярод тых, хто прыняў хрысціянства, былі Рагнеда і яе сын Ізяслаў, якіх вялікі князь Уладзімір у 992 годзе адправіў у іх родавую «отчыну» — Полацкую зямлю.

У «Степенной книге» (XVI стагоддзе) названы тры епіскапскія кафедры, утвораныя мітрапалітам Леонціем у 992 годзе — у Ноўгарадзе, Растове і Уладзіміры-Валынскім, а далей там напісана: «и во иные многие грады разосла епископы». Сярод гэтых «многіх градаў» мог быць і Полацк. Для максімальна дакладнага высвятлення пытання аб узнікненні Полацкай епархіі надзвычай важным з'яўляецца вывучэнне гістарычных крыніц. І найбольш старажытныя маюць першаступенную каштоўнасць, бо пазнейшыя часам утрымліваюць звесткі менш праўдзівыя, заснаваныя на легендах і паданнях. Гісторык В. Тацішчаў у «Гісторыі Расіі» і мітрапаліт Платон у «Кароткай гісторыі Расійскай царквы» зазначаюць, што мітрапаліт Нікіфар І, які пасвяціў у духоўны сан у 1105 годзе архімандрыта Міну ў епіскапа Полацкага, сам быў прызначаны на Кіеўскую мітраполію з Полацкай епіскапіі. І В.Тацішчаў, і Платон карысталіся крыніцамі, якія да нас не дайшлі, і, супастаўляючы іх з пазнейшымі дакументамі, напрыклад, са сведчаннем Ніканаўскага летапісу, атрымліваем пацвярджэнне выказанаму меркаванню накont 992 года ўзнікнення Полацкай епархіі.

Яшчэ адно сведчанне звязана з імем прападобнай Ефрасінні, ігуменні Полацкай. Для манастыра Полацкі епіскап Ілія аддаў ёй мястэчка Сельца непадалёку ад Полацка, якое раней належала архірэйскаму дому. Перадаючы Сельца для манастыра, епіскап Ілія сказаў, што там у царкоўным магільнім склепе пахаваны святары, «прежде нас бывшии епископи». З чаго зразумела, што папярэднікам у яго быў не адзін епіскап Міна, а іх было некалькі. Пацвярджаецца гэта і нядаўнімі раскопкамі ў Сельцы, дзе знойдзены склеп з мужчынскімі пахаваннямі.

У 992 годзе польскі князь Мешка І перадаў Польскую дзяржаву пад уладу і апеку Рыма, што ў сваю чаргу адыграла значную ролю ў вызначэнні тэрміну адкрыцця Полацкай епархіі і прысылцы епіскапа з Кіева ў Полацк. У падтрымку гэтага аргумента можа служыць думка вядомага нашага гісторыка М. Ермаловіча, які лічыць, што ўтварэнне Полацкай епархіі з'явілася важнейшай падзеяй у пачатковай гісторыі Беларусі, якая садзейнічала ўсталяванню хрысціянства ў Полацкай зямлі. Верагоднасць пастаўлення першага Полацкага епіскапа ў 992 годзе пераканаўча засведчана параўнаўчым аналізам летапісных крыніц і працамі папярэдніх пакаленняў гісторыкаў.

Святкаванне 1000-годдзя Полацкай епархіі падкрэсліць яе значэнне ў развіцці духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі. Удзельнікамі калёквіума была таксама аднадушна падтрымана ідэя аб увекавечанні памяці Рагнеды і Ізяслава, як выдатных асоб у беларускай гісторыі. Дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс лічыць, што наспела неабходнасць стварэння «Нарысаў гісторыі хрысціянства на Беларусі».

Выказана была аднадушная думка і аб тым, што святкаванне ў 1992 годзе 1000-годдзя заснавання Полацкай епархіі павінна насіць агульнацаркоўны і агульнанацыянальны характар.

## ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЙ І РАСІЯЙ

# РЫЖСКІ ГЕШЭФТ

Трагічныя падзеі XX стагоддзя, якія адбываліся ва Усходняй Еўропе, нязменна адбіваліся на лёсе нашай зямлі, беларускага народа. З пачатку нашага стагоддзя да яго сярэдзіны тэрыторыя Беларусі восем разоў падвяргалася падзелам, калі за яе кошт хцівыя суседзі імкнуліся ўрваць на сваю карысць спрадвечныя беларускія землі. На жаль, часта гэта ўдавалася, таму што зямля без суверэнітэту — гэта разменная манета ў руках больш магутных і беспрынцыпных суседзяў.

Набытая ў 1918, 1920 гадах бальшавікамі практыка заключэння за кошт беларускіх земляў двухбаковых дагавораў дасягнула свайго трагічнага апагея 18 сакавіка 1921 года.

Дзеі гэтае трагедыі разгорталіся на працягу амаль трох папярэдніх гадоў.

Пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Нямеччыне 1 часовага зыходу яе з палітычнай арэны, скасавання ўмоў «пахабнага» Брэст-Літоўскага міру Беларусь зноў апынулася ў цэнтры ўвагі і хцівых памкненняў суседзяў— галоўным чынам Польшчы і Расеі.

Дзеяч польскага адраджэння Ю. Пілсудскі, марачы аб стварэнні незалежнай дэмакратычнай Польшчы, бачыў (не без падстаў) у Расеі, будзь якой — ці то царскай, ці то савецкай і сацыялістычнай—небяспеку для свайго народа і перашкоду ў ажыццяўленні канчатковай мэты. Дзеля забеспячэння аховы ад бальшавіцкіх уплываў і ваеннай пагрозы ён прапанаваў стварыць федэрацыю ўскраінных дзяржаў («ад Гельсінгфорсу да Ціфлісу»). Вядома, Польшчы адводзілася роля ваеннага гегемона ў гэтым вайсковым хаўрусе.

Тым часам тэрыторыя, што раней была занята кайзераўскімі жаўнерамі, пачала акупіравацца з усходу чырвонаармейцамі, а з захаду — польскімі легіянерамі. На 13 лютага 1919 года была дасягнута пэўная раўнавага прыкладна на лініі: Панявеж, Слонім, Картуз-Бяроза, Янава (зараз Іванава— пад Пінскам), Сарны, Оўруч.

Тэрмінова створаная па загаду з Масквы Літоўска-Беларуская Рэспубліка паспрабавала ўсталяваць дыпламатычныя кантакты, але безвынікова.

За кошт шэрагу палітычных пагадненняў на карысць краін Антанты апошняя спісала Пілсудскаму грахі, калі ён у час Першай сусветнай вайны ваяваў на баку нямецкай арміі, і зніклі ўсе перашкоды для стварэння шчыльнага саюза паміж імі.

Забяспечаная за кошт Антанты, польская армія вясной 1919 года пачала адкрыты наступ на тэрыторыю ЛітБела.

Пасля жорсткіх баёў 19—21 красавіка была захоплена Вільня, а на пачатак чэрвеня ваюючыя бакі размясціліся па вельмі зламанаму фронту — Шаркоўшчына, Варапаева, воз. Нарач, ст. Залессе, левы бераг р. Бярэзіны, мяст. Валожын, Пяршай, Івянец, Камень, Налібокі, Калядзіна, Клецк, Ганцавічы, рэкі Ясельда і Прыпяць.

Увогуле перад польскім[illegible]скам ставілася задача д[illegible]нуць межаў былой Рэчы Паспалітай перад першым падзелам яе ў 1772 годзе. Яна не была выканана, хаця да канца 1919 года былі дасягнуты значныя поспехі, што вымусіла СНК РСФСР звярнуцца 28 студзеня 1920 года да Польскага ўрада з паўторнай прапановай перамоў. Першая была адаслана яшчэ 22 снежня 1919 года. У студзеньскім звароце да Польшчы пацвярджалася прызнанне незалежнасці Польшчы і даваліся гарантыі, што Чырвоная Армія не пераступіць цераз лінію Дрыса — Дзісна — Полацк — Барысаў — Парычы— ст. Пціч — Белакаровічы — мяст. Чуднаў — Пілява і г. д. Але адказам на гэты зварот было наступленне польскіх войскаў у рэчыцкім напрамку. На пачатку сакавіка імі былі заняты Мазыр, Калінкавічы, Оўруч. Чатыры контрнаступленні 16-й арміі бальшавікоў у сакавіку—маі 1920 года з мэтай авалодання Мазыршчынай не далі пажаданых для іх вынікаў, але і для палякаў гэтыя рубяжы сталі апагеем у іхнім прасоўванні на ўсход Беларусі.

11 мая 1920 года Чырвоная Армія пачала наступ уздоўж лініі Аляксандраўскай чыгункі, на поўначы Беларусі. Роўна праз два месяцы быў вызвалены Менск, а яшчэ праз тры дні — папярэдне падораная бальшавікамі літоўцам — Вільня. На 18 ліпеня 1920 года лінія фронта праходзіла праз Баруны, Багданаў, Трабы, Слуцк. На наступны дзень была вызвалена Гародня, у якасці трафея ўзяты тры танкі, 32 гарматы (з якіх 10 буйнакаліберных), звыш 100 кулямётаў і каля 5 тысяч палонных. Пры набліжэнні да этнічных польскіх зямель супраціўленне войскаў Пілсудскага пачынае ўзмацняцца, і тэмпы прасоўвання Чырвонай Арміі на захад становяцца ўсё больш павольнымі.

У дырэктыве галоўнакамандуючага С. Каменева «№ 4344 (ОП)» ад 23 ліпеня 1920 года камандуючаму Заходняга фронта Тухачэўскаму загадваецца «не пазней 12 жніўня выйсці на лінію Прасныш — Нова-Георгіеўск, далей па р. Вісле на поўдзень да Нова-Александрыі ўключна, авалодаўшы горадам Варшава».

Яшчэ перад пачаткам наступлення на паўднёвым фронце (на Украіне) былы царскі генерал Брусілаў звярнуўся з адозвай да рускага афіцэрства. У ёй гаварылася, што польскі напад пагражае не толькі «расхищением России, но и полной гибелью». Ідэя настолькі своеасаблівая, наколькі і беспадстаўная: Польшча не прэтэндавала на расейскія землі. Непакоіцца мусілі (што яны і рабілі) беларусы. Але імперскія думк[illegible] героя першай сусветнай ва[illegible] цалкам і поўнасцю адпав[illegible]лі і бальшавіцкім настроям. Апошнія, праўда, гатовы былі ахвяраваць Беларуссю ці яе часткай, каб самім утрымацца пры ўладзе. Цікавай аказваецца ў гэтай сітуацыі і пазіцыя ўцекача—экс-галавы Часовага ўрада Расіі — А. Керанскага. Апошні, даючы інтэрв'ю карэспандэнту «Газэты Варшаўскай», гаворачы аб становішчы на Беларусі, сам сабе задаў пытанне: «А можа прымяніць на Беларусі плебісцыт?» Крыху падумаўшы, сам адказаў: «...не раю. Небяспечная гэта рэч. Як на Беларусі, так і ва Усходняй Галіцыі».

Гэтае двухсэнсоўнае інтэрв'ю ў любым з выпадкаў паказвае ўсё тую ж вяліхадзяржаўную сутнасць інтэрв'юера, ён непакоіцца, як бы ў выніку свабоднага волевыяўлення народаў яны не выйшлі з апякунства «старэйшых братоў».

Не засталіся ў баку і нацыянальныя сілы Беларусі, якія ў сваім звароце заявілі, што «бальшавік Троцкі і царскі генерал Брусілаў аб'ядналіся і вядуць маскоўскія банды на Беларусь».

Другі бок удзельнікаў канфлікта займаў у дачыненні да беларусаў таксама пазіцыю лавіравання—ад пяшчотна-сяброўскага паляпвання па плячы да наўмыснага зневажання. Калі польскія войскі рабілі поспехі на франтах, урад адпаведна не шукаў сабе падтрымкі сярод беларускага войска, якога ён сцярогся, а калі становішча на фронце пачынала хістацца, а па Беларусі праходзіла хваля паўстанняў, тады з польскага боку гучала «спачуванне» нацыянальнаму адраджэнню.

**Анатоль ЦІТОЎ.**

**(Працяг будзе).**

---

## *СТРАХАВАЯ МЕДЫЦЫНА: ГЭТА РЭАЛЬНА?*

# ...А ЎРАЧА ВЫБЕРУ САМ

«Можа быць, вас зацікавіць, што думае наконт страхавой медыцыны звычайны ўрач? — спытаў мяне галоўны ўрач лячэбна-аздараўленчага комплексу «Мара» **Павел БАБРОВІЧ.** — Дарэчы, — дадаў ён, — з маімі меркаваннямі ўжо знаёміліся дэпутаты беларускага парламента, якія працуюць над праектам закона «Аб медыцынскім страхаванні грамадзян і фінансаванні аховы здароўя».

*— І вось, Павел Віктаравіч, страхавая медыцына ў вашым разуменні — гэта...*

— ...гэта адзіны спосаб навесці парадак у дэфармаваных адносінах паміж працадаўцам, медыкам і хворым. Не сакрэт, што дзяржава манапольна валодае аховай здароўя і ўсе праводзімыя цяпер пераўтварэнні не закранаюць існуючыя структуры кіравання галіной. А новы гаспадарчы механізм толькі фарміруе камерцыйныя патокі паміж бальніцай і паліклінікай. Іншымі словамі, урачы пачынаюць атрымліваць разы ў два з паловай большую, чым звычайна, зарплату, прычым з дзяржаўнай кішэні, пры гэтым ні на ёту не паляпшаючы якасці лячэння, прафілактыкі, рэабілітацыі.

*— Значыць, вы за дэманапалізацыю аховы здароўя?*

— Больш дакладна, за дэцэнтралізацыю фінансавання медустаноў і хаця б частковае раздзяржаўленне самой сістэмы аховы здароўя. Я — за многаўкладнасць. За мірнае суіснаванне асацыяцый медработнікаў, медыцынскіх і аздараўленчых кааператываў і сямейных урачоў, якія павінны стаць асноўным звяном новай сістэмы незалежна ад таго, ці практыкуюць яны прыватным чынам, ці служаць у дзяржаўнай бальніцы.

*— І якім жа, на ваш погляд, павінен быць механізм фінансавання такой многаўкладнай аховы здароўя?*

— Урач атрымлівае толькі за канкрэтную работу, але не ад дзяржавы, а ад страхавога таварыства, фірмы, касы — што прыжывецца на нашай глебе. Страхавыя ўстановы выдаюць чалавеку поліс, які забяспечвае сродкамі яго працадаўца. Гэта значыць прадпрыемства, нават стратнае, можа сабе гэта дазволіць, пералічвае штомесяц, скажам, 8—10 працэнтаў заработнай платы страхавой установе. За год на рахунку кожнага з нас набярэцца значная сума, з якой, а не з уласнага кашалька, хворы расплаціцца за лячэнне. Прычым не мае значэння, дзе гэта лячэнне ці абследаванне праводзілася: у бальніцы, у медыцынскім кааператыве, у прыватна практыкуючага доктара. Хворы сам выбера ўрача, якому ён больш давярае. Калі за цэлы год ён ні разу не захварэў і грошы на яго рахунку засталіся непатрачанымі, частку іх можна вярнуць у выглядзе турпуцёўкі, абанемента ў басейн, сауну, на іншыя прафілактычныя мерапрыемствы. І калі зарплата ўрача будзе ўвязана з канчатковым вынікам, гэта значыць са здароўем чалавека, то непазбежна палепшыцца і якасць медыцынскай дапамогі. Калі ж па віне доктара ў хворага ўзніклі якія-небудзь ўскладненні, страхавая ўстанова проста не пералічыць яму грошы. У ЗША, напрыклад, зарплату дактароў вызначаюць толькі страхавыя кампаніі (там каля 70 працэнтаў гэтых кампаній прыватныя і толькі трэць — дзяржаўныя). Калі амерыканскі доктар дрэнна лечыць, страхавы агент зацягае яго па судах, прычым не выключана страта медыкам ліцэнзіі на работу.

Пры такой сістэме бюджэт будзе аплачваць лячэнне толькі сацыяльна не абароненых катэгорый грамадзян і прыярытэтныя напрамкі медыцыны: неадкладную дапамогу, ахову мацярынства і дзяцінства, анкало[illegible], лячэнне інфекцыйных і псіхіятрычных хвароб, санітарна-эпідэміялагічную службу, падрыхтоўку кадраў, праграмы прафілактыкі, фармакалогію, фундаментальную медыцынскую навуку.

*— Але ўзровень медыцынскай дапамогі — гэта не толькі кваліфікацыя ўрача, а і аснашчэнне клінік, наяўнасць медыкаментаў — тое, чаго ў нас сёння так не хапае.*

— Гэтаксама, як урач сёння не зацікаўлены ў якасным лячэнні, арганізатары аховы здароўя не зацікаўлены ва ўкараненні навінак. У краіне склалася парадаксальная сітуацыя, пры якой вучоныя, якія займаюцца распрацоўкай новых метадаў лячэння, прафілактыкі, рэабілітацыі, не могуць укараніць свае распрацоўкі. За мяжой урачы, менеджэры буйных бальніц і шпіталяў літаральна ганяюцца за навінкамі. Бо ў выніку расце іх папулярнасць у хворых, а значыць, даходы. Дарэчы, у Прыбалтыцы сітуацыя ўжо мяняецца.

*— Больш сямі дзесяткаў гадоў мы прапаведавалі ўраўняльную ідэалогію, і цяпер, калі нарэшце адмаўляемся ад яе, роўны страхавы ўзнос вяртае ўсё на кругі свае. Але ж ужо ідзе расслаенне грамадства, з'явіліся вельмі багатыя людзі, у многіх ёсць валюта. Значыць, яны атрымаюць тую ж страхоўку, што і ўсе, але на свае немалыя грошы змогуць купіць дадаткова самае дарагое лячэнне і лепшыя курорты.*

— Ёсць методыка, адпрацаваная ў цывілізаваных краінах, па якой ахова здароўя дзеліцца на тры ўзроўні. Першы — звычайны, аднолькавы для ўсіх стандарт па тарыфах. Другі — для тых катэгорый людзей, якіх страхуе дзяржаўны бюджэт: дзеці, цяжарныя, інваліды і гэтак далей. Трэці — палепшаны, але не столькі за кошт медыцынскіх паслуг, колькі за кошт сервіса: асобная палата з тэлевізарам і кандыцыянерам. Але ва ўсіх трох узроўнях сама медыцынская дапамога будзе аднолькава добрай, вось што важна зразумець. У рэшце рэшт, калі чалавек захоча змяніць узровень свайго медыцынскага абслугоўвання, ён альбо даплачвае з сваёй кішэні, альбо патрабуе ў працадаўцы павялічыць яго страхоўку.

*— А прафсаюзы, напрыклад, упэўнены, што пара страхавой медыцыны яшчэ не настала, што яе з'яўленне магчымае толькі пры рыначных адносінах.*

— Больш таго, савет Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў СССР звярнуўся да Генеральнага пракурора з патрабаваннем забяспечыць канстытуцыйнае права грамадзян на бясплатную медыцынскую дапамогу. Але прафбосы хітруюць: медыцына ў нашай краіне заўсёды была платнай. Рабочыя ж і служачыя атрымліваюць у выглядзе заработнай платы ўсяго 36 працэнтаў кошту выпрацаванай імі прадукцыі. Астатнія 64 працэнты ідуць не столькі на грамадскія фонды спажывання («бясплатныя» ахову здароўя, адукацыю, жыллё), колькі на пакрыццё раздзьмутых расходаў на абарону, утрыманне бюракратычнага апарату і стратных прадпрыемстваў. У выніку, вяртаецца з бюджэту на «ахову здароўя» аднаго сярэднестатыстычнага беларуса ўсяго 95 рублёў. Абязлічанасць гэтая і дазваляе адным лячыцца на дарагіх фешэнебельных курортах, а другім «аздараўлівацца» на дзесяткі рублёў дзе-небудзь у глухім Палессі. Ды і здаровыя, атрымліваецца, аплачваюць лячэнне хворых. А ў кіраўнікоў прадпрыемстваў можа не балець галава за ахову працы, арганізацыю рабочых месцаў, аздараўленне рабочых. Што ж датычыць занепакоенасці прафсаюзаў, то яна цалкам зразумелая: яны завалодалі сродкамі дзяржбюджэту, якія ідуць у выглядзе працэнта па сацстраху. Больш таго, прафсаюзы за эканомію бальнічных лістоў атрымліваюць прэміі. Пасля арганізацыі незалежных страхавых устаноў прафсаюзы гэтыя сродкі страчваюць.

*— ...А значыць, і цікавасць да здароўя грамадзян. Але ва ўмовах многаўкладнай медыцыны, аб якой вы гаварылі, ці не рызыкуем мы ўвогуле страціць гаранта нашага здароўя ў маштабах рэспублікі?*

— Ім, як гэта адбываецца ва ўсім свеце, павінны стаць кіруючыя ўладныя структуры — палітычныя і адміністрацыйныя.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**




209

Тугоўскі стаяў у карыдоры й бачыў у дзьверы, як яна вынасіла нейкую бялізну, розныя рэчы, прыводзячы пакой у парадак. Нарэшце яна адчыніла дзьверы й больш ласкава запрасіла:

— Калі ласка, заходзьце.

Пакой быў вялікі, у поўным раначным беспарадку. Герой слуцкі ляжаў у пасьцелі бясформеннай велізарнай масай й пільна глядзеў на ўвайшоўшага.

— Калі ласка, сядайце, — прамовіў ён, паказываючы валасатай рукой на крэсла. — Што скажаце?

Прыгожая жонка яшчэ ў начным капоце села на крэсла пад вакном й стала слухаць.

Тугоўскі расказаў сваю гісторыю як мага больш жаласна.

— Вы даўно ў Празе? — спытаў міністр сваім дыскантам, праз хвіліны паўзы.

— Ужо тры гады...

— Тры гады?! О, вы тады маеце права на стыпэндыю ў першую чаргу. Тады вы йдзіце ў "Беларускую Грамаду", там зараз пачнецца паседжаньне, й я там буду праз паўгадзіны.

Аўдыэнцыя скончылася. Тугоўскі ўстаў, падаў руку міністру, прычым той так павярнуўся, што пасьцель трэснула й ледзь не разваліласа пад ім, падышоў да ручкі жонкі і вясёла выйшаў з пакою.

"Герой Случанін не хоча браць на сябе ўсей адказнасьці, — усьміхнуўся Тугоўскі. — Незнаёмы я з ім, але паглядзім, што будзе далей"...

Ён прайшоў у памяшканьне "Беларускай Грамады". Там ужо сабраліся ўсе прадстаўнікі Рады рэспублікі разам з прадстаўнікамі ад студэнтаў. Былы міністр Заяц з маленькай казьлінай баро-

210

дкай гутарыў аб нечым з пагладжываўшым сваю даўгую сівую бараду былым старшынёй Беларускай Рады Крэчэўскім. Адзін з студэнтаў падыйшоў да гутарыўшых і далажыў аб Тугоўскім й яго просьбе атрымаць стыпэндыю. Заяц зараз жа выйшаў у другі пакой й падаў руку Тугоўскаму. Той адрэкамендаваўся.

— Як ваша прозьвішча? — громка паўтарыў Заяц. — Тугоўскі? Гм. Адчаго ў вас такое дзіўнае прозьвішча?

— Ня ведаю, — усьміхнуўся Тугоўскі.

— Тугоўскі... Гм... У вас, напэўна, часта туга бывае, дзеля таго й прозьвішча такое. — Ён кашлянуў, дастаў з кішэні сіненькую баначку, не сьпяшаючыся адвінціў крышку й плюнуў. Тугоўскі паморшчыўся. Бо Заяц рабіў гэтую працэдуру перад самым яго тварам. Ён таксама спакойна завінціў крышку, спакойна паклаў у кішэню і спакойна папытаў Тугоўскага:

— А чаму ад вас аднялі стыпэндыю?

— У мяне не аднялі, я сам адмовіўся.

— Ах, самі адмовіліся, — зрабіў Заяц вялікія, артыстычныя вочы. — Вось як... А цяпер зноў жадаеце. Ну ведаеце, так мы ня можам. Вы будзеце адмаўляцца, потым зноў прасіць, потым зноў адмаўляцца. Не... Мы ня можам. Стыпэндыя не футбольны мячык... Не... Не...

У гэты момант увайшоў, пыхкаючы, як паравоз-машына, міністр Случанін:

— У чым справа? — пытаў на хаду. Ён узяў Зайца пад руку й зьнік з ім у другім пакоі. Тугоўскі застаўся адзін чакаць вырашэньня свайго лёсу. Ён чуў, як там шумелі й спрачаліся. Чуў, як прадстаўнік студэнтаў прамовіў: "Паэт"... Спрэчкі замоўклі. Нарэшце выйшаў, пагладжваючы сваю

211

бараду, Крэчэўскі й, усьміхаючыся, запытаў:

— Вы паэт? Пішаце вершы?

— Не... Нічога не пішу.

— Прыхадзіце заўтра да мяне на кватэру, пагутарым аб выданьні новай беларускай часопісі ў Празе.

— Выбачайце. Я не маю часу, — зазначыў Тугоўскі. — Я не магу так вольна разгульваць, бо ў мяне заўтра праца. Я прашу вас вырашыць мой лёс ці ў той, ці ў іншы бок. Я павінен мець адказ сяньня.

— Гэтую справу я думаю як-небудзь улаштаваць, — пагладжваў сваю бараду Крэчэўскі. — Вы маглі-б зарабіць больш, чым на вашай цагельні, супрацоўнічаючы ў "Славянскай Кнізе". "Славянская Кніга" — бібліяграфічная часопісь на расейскай мове, вельмі добра аплачывае працу. Я там маю беларускі аддзел. Зьбірайце вось бібліяграфічныя весткі і прыносьце да мяне.

— Ня ведаю, магчыма, у будучым, а што будзе са мной? — спытаў Тугоўскі.

— Прыходзьце заўтра, усё роўна сяньня на паседжаньнях мы нічога ня вырашым. Дык заўтра.

Ён, усьміхаючыся, працягнуў яму руку й крэпка пацікнуў.

Крэчэўскі жыў, як і міністр Случанін, каля рынку, хоць з другой часткі, недалёка ад знамянітай чэскай рэстарацыі і гатэля "Барандаў". У раскошных залях гэтага гатэля часта прыймалі прыязджаўшых у Прагу беларускіх гасьцей.

Каб папасьць да пакоя Крэчэўскага, трэба было прайсьці праз хату нейкага эмігранта з усходнім тварам — армяніна ці грузіна, які дакладываў аб прыйшоўшым. Пакой Крэчэўскага быў вельмі дэмакратычны, зусім не падобны да міністэрскага.

212

На ўсіх крэслах, дыванах, пасьцелі, сталах ляжалі велізарныя пачкі газэт і журналаў, болей усяго "Савецкай Беларусі". Тутсама на маленькай плітцы яго жонка-старушка пякла бліны. Старык сядзеў за пачкай газэт і чытаў ці пісаў вершы пад траскат пліты. Гледзючы на гэты пакой, на згорбіўшагася аслабелага старыка, Тугоўскі яшчэ раз успомніў: "Гэта хутчэй Афанасій Іванавіч Таўстагуб, чым тварэц усёй палітычнай беларускай справы ў Празе".

— Ну, магу вас прывітаць, — казаў ён, паціскаючы руку, — стыпэндыі мы вам дабіліся. Цяпер толькі трымайцеся. Вам, магчыма, было б лепе на філязофію, але мы зараз вас улаштава толькі на тэхніку, як і было раней.

Старушка таксама трасла яго руку, нягледзячы на тое, што ў гэты час бліны гарэлі на пліце. Тугоўскі глядзеў на яе ледзь не са сьлязамі на вачох й думаў: "Мілая, мілая Пульхерыя Іванаўна..."

На радасьцях яна нават пачаставала яго блінс начыненым тварагом. І ён зьеў яго з такім аі тытам, быццам быў некалькі дзён галодным. Размова перайшла на праскую беларускую калёнію.

— Чаму наша беларуская моладзь ледзь не ўся пачынае хварэць туберкулёзам? — запытаў старык, і сам жа сабе адказаў: — Таму што наша моладзь вядзе неправядловае жыцьцё. Я вас запэўняю: каб наша моладзь рэгулярна й нармальна ела бы палудзень — ніякага туберкулёзу не было-б.

— Хто ведае, — адказаў Тугоўскі, не жадаючы зусім згадзіцца. Й усё ж ткі частковa старык меў рацыю.

— Я ўжо старык стаў, — прадоўжываў ён праз

213

хвіліну, — цяпер можа ўжо не патрэбны нікому, але я ведаю больш і бачыў больш, чым гэта зялёная моладзь, якая мяне лае. Мяне лаюць, ведаеце вы гэта, бо і ў нас, беларусаў, згуртаваўся камуністычны гурток моладзі — камсамол. І яны лаюць.

— Ды што на іх зьвяртаць увагі, — зазначыў Тугоўскі, — старога льва й асёл хоча пабіць капытом.

Старык не зьвяртаў увагі на гэтыя словы й прадоўжываў:

— Але мы яшчэ будзем змагацца.

Вочы яго заблішчэлі. Мяккія рысы шырокага твару сталі больш рэзкімі й грубымі. Гэта ўжо ня быў драхлы старык Афанасій Іванавіч. Гэта ізноў быў палітык, былы старшыня Беларускай Народнай Рэспублікі, як барадаты Майсей — правадыр свайго народу.

Ён падняўся з крэсла, стаў чытаць вершы, гатовыя палітычныя агляды, дакументы й матэрыялы для новай часопісі. Ён памаладзеў. Як малады чалавек, захоплены прыгожым, чаго іншыя не бачаць, вочы ў яго гарэлі фасфарыстычным блескам. Ён мімаволі зацягіваў Тугоўскага ў свае палітычныя сеткі, хоць той стараўся знайсьці яшчэ пункты апоры, каб аканчальна ня быць злоўленым. Ён затрымаў Тугоўскага да цёмнага й пачаставаў гарбатай на разьвітаньне. Тут ён зноў быў ціхім дабрадушным Афанасіем Іванавічам, быццам між іншым стаў прасіць Тугоўскага стаць карэктарам новай часопісі. Як ні была прыемнай такая прыпазыка Тугоўскаму, ён ад яе адмовіўся: у яго заўся будзе шмат працы з навукай. Але, адыходзячы ад добрых і мілых старыкоў, Тугоўскі ня чуў пад нагамі зямлі. Ён першы раз у сваім жыцьці пачуў, што ён камусьці патрэбны. І гэта сьвядомасьць сваей

214

патрэбнасьці, гэта адсутнасьць думкі "лішняга чалавека" напаўняла яго сілай і верай.

## IV

Рака часу плыла безупынна. Усё мянялася: пад вечар, як казаў адзін філязоф, ня можна было выкупацца ў тэй самай рацэ, у якой купаўся зраньня. "Беларуская Грамада", у якую ўступіў калісьці Тугоўскі, не была падобная да тэй Грамады, якую ён пабачыў цяпер, калі яго зноў прынялі на стыпэндыю. Усё зьмянілася: шмат сяброў ён ужо ня мог палічыць: "Адных ужо крыюць курганы, магілы,.. другія сасланы за краты ў турму". Усё ж ткі знайшліся й сярод знаёмых адзінкі, якія, пакорныя нейкаму маладому запалу, пакідалі свае факультэты й ехалі на палітычную працу па беларускіх вёсках і мястох. Некаторыя з іх заставаліся ўсяго некалькі месяцаў да таго, каб атрымаць дыплём доктара ці інжынера, некаторыя з іх толькі ўступалі ў жыцьцё. Маладыя, яшчэ не пасьпеўшыя аперыцца пцянцы, але яны йшлі пакорныя голасу свайго сумленьня, йшлі й гінулі ў турмах за кратамі.

Беларускі рух яшчэ не стаў настолькі шырокім й моцным, каб з ім лічыліся як з вялікім культурным зьявішчам. Яшчэ трэба несьці шмат мук, яшчэ трэба праліць нямала крыві, каб нарэшце рух стаў ня толькі "крамолай", ня толькі "бунтам" неза-

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 48.**

215

даволеных галодных мас, але каб ён стаў моцным і глыбокім, як само жыцьцё, як патрэба жыць і дыхаць, каб ён атрымаў усёсьветную сымпатыю.

Толькі кроў, гэта неўміраючае каханьне, можа выклікаць сымпатыю людзей; толькі ахвяры могуць прыняць вянок перамогі, й толькі жывыя людскія ахвяры могуць прымусіць схіліць галаву самых заўзятых ворагаў. Болей ахвяр! І яны несьлі ахвяры, гэтыя маладыя беларускія рыцары, гэтыя бяздумныя гладыятары, не шкадаваўшыя свайго жыцьця. Яны гінулі ў турмах і ўміралі ў турэмных шпіталях як арыштанты.

Трывожныя весткі йшлі з Бацькаўшчыны. Стала ведама, што памёр адзін з самых маладых і надзейных сяброў Грамады [...]. Тугоўскі добра ведаў яго. Ён памятаў, што гэты юнак, яшчэ нават дзіцёнак, нядаўна гутарыў аб сваіх мэдыцынскіх марах, яшчэ нядаўна гарэў жыцьцём і блішчэў пенснэ сваіх блізаруіх вачоў.

Юнак, надзея беларускага мэдыцынскага гуртка, стаў палітычным вязнем і памёр у турэмным халаце на дошках. Трагічны лёс. Сэрца Тугоўскага міжволі спачувала ўсім гінуўшым за грамадскую справу, і вусны мімаволі шапталі ім апошнае прывітаньне: "Героі!"

Гінулі ластаўкі, захопленыя зімой на Бацькаўшчыне, а ў тэй самы час у Празе йшла ўнутрышняя барацьба. Людзі падняліся па розныя гурткі й партыі: марксысцкі гурток, заграгічны камітэт партыі эсэраў, з'явіліся клерыкалы й нават манархісты. Справа даходзіла нават да таго, што спрэчкі канчаліся фізічнай бойкай й судамі гонару. Кожная партыя хацела зацягнуць да сябе Тугоўскага. Цяпер, калі справа залежыць ад аднаго ці двух галасоў, Тугоўскі стаў раптам усім

216

патрэбным. Але Тугоўскаму было цесна ў рамках аднэй партыі. Ён думаў шырэй, ён думаў, што зараз можа быць толькі адна беларуская партыя змагароў, і рашуча адмаўляўся ўступаць у якую-бы то ні было партыю. Сярод грамадзян пачалася бура, асабліва пасьля таго, як стала ведома, што марксысцкі гурток выліўся ў камуністычную арганізацыю. Адзін з сяброў гуртка лысы філязоф Дзягцяр выступіў на сьвяце Кастрычнікавай Рэвалюцыі ад імені беларускіх студэнтаў. Зразумела, што гэты Дзягцяр унёс лыжку дзёгцю ў бочку мёду агульнай беларускай справы.

У Студэнцкім доме зашумелі. Калі Тугоўскі ўвайшоў у Студэнцкі дом, па ўсей залі былі раскіданы гурткі беларусаў, шумеўшых, моцна размахіваючых рукамі. Дзягцяр, чырвоны, як мак, стаяў у групе з Тамашэвічам, Бураком, Малевічам й аб нечым голасна спрачаўся.

— Калі так, — пачуў толькі Тугоўскі, — дык я з вамі больш размаўляць не жадаю.

І ён, зьбляднеўшы, раптам павярнуўся й падыйшоў да Тугоўскага.

— Давайце з вамі пагутарым, — сказаў ён і адвёў Тугоўскага ў старану. — Я чуў, грамадзянін Тугоўскі, што вы сын работніка, што вы па сваей філязофіі павінны йсьці з намі, моладдзю з сялян і работнікаў, якая аб'ядналася ў марксысцкі гурток. Дык вось я хачу пачуць ад вас, як вы адносіцеся да гэтых апошніх падзей у Грамадзе?

— Бачыце, даражэнькі, — пачаў Тугоўскі, — вашага выступу ад імя ўсіх беларускіх студэнтаў я не адабраю. Вы ня мелі права гэтага рабіць, калі на гэта вас ніхто не ўпаўнаважываў. Што датыча адчыненьня марксысцкага гуртка, дык я думаю, што яго адчынілі зарана.

# ШТО МЯНЕ ТРЫВОЖЫЦЬ?

Паважаная рэдакцыйная калегія «Голасу Радзімы»!

Не хочацца вачам верыць, чытаючы «Голас Радзімы», што рэдактары прамаўчалі аб трохдзённай «рэвалюцыі» і, не выказаўшы свайго меркавання, слова перадалі В. Краслаўскаму. Ён піша ў сваім «Трывожна» («Г.Р.», № 35 ад 29 жніўня 1991 г.), што Расія ізноў падставіла свае плечы. Хто ж падняў рэвалюцыю? Ці ж не расейскія камуністы-крыміналісты ў Маскве? Дык жа абавязкам масквічоў пад кіраўніцтвам Б. Ельцына, як прэзідэнта, выбранага дэмакратычным правам народамі 141-мільённай Федэрацыйнай Расейскай Рэспублікі, трэба было бараніць сваю нованароджаную дэмакратычную дзяржаву. І масквічы баранілі. Б. Ельцын, як прэзідэнт, стаў на чале свайго народу, і супольна перамаглі крыміналістаў.

В. Краслаўскі сказаў у сваім «Трывожна», што ні адна рэспубліка не выказалася дакладна ці за, ці супраць путчу. На што ж можна было спадзявацца ад беларускага «ўрада» Дземянцея? Ён жа сам стаўленік тых жа самых крыміналістаў, якія паднялі «рэвалюцыю». У яго «ўрадзе» былі не беларусы, а маскоўскія камуністы, не знаныя беларускаму народу? Дык што такая рэспубліка магла сказаць? Апазіцыя слабенькая. БНФ з Пазняком не мог стацца масавай арганізацыяй. Гэта віна самога Пазняка. У БНФ уцісnуліся вуніяты. Палітыка вуніятаў і католікаў, каб захапіць арганізацыю ў свае рукі і «адкрыць дзверы на Захад», а гэта дасць магчымасць Польшчы захапіць Заходнюю Беларусь.

В. Краслаўскага трывожыць, што магчыма камуністы вылезуць з-пад «ялаўцовых кустоў», выклікаючы другую «рэвалюцыю», бо на сталах не будзе кілбасы, ані да кілбасы... Я думаю, што свабода даражэй за кілбасу. Кілбаса рэч набытая. Сёння няма, а заўтра ёсць. Звер бароніцца, калі ў яго адбіраюць свабоду. А чалавек?

У часе Гарбачовай адлігі беларускія выданні, як «Наша Слова», «Наша Ніва». «Свабода», а нават і «Голас Радзімы», замест адраджаць амаль задушаную да смерці беларускую нацыю, мову, культуру, абычаі, традыцыі і ўсё тое, што нашае беларускае, яны трацілі час і энергію, адраджаючы вуніяцтва і каталіцызм на Беларусі. Старонкі названых газет былі запоўнены вуніяцкімі справаздачамі «з'ездаў», малітваў, артыкуламі аб канферэнцыях, прамовамі... Для мяне было цікавей прачытаць у «Голасе Радзімы» аб Юрку Хахолцы, чым прамову вуніята Кіпеля на з'ездзе «беларусістаў». Запрудніка зрабілі «магутным» дзеячом за дармовыя падарожжы ў Амэрыку, а а. Надсона амаль не заступнікам папы рымскага, паляка Вайтылы. Перадачы лекаў пацярпеўшым ад чарнобыльскай катастрофы а. Надсонам, малітвы ў Мінску, пропаведзі, інтэрв'ю — гэта ёсць вуніяцкая прапаганда, гэта «кракадзілавы» слёзы. Прыйшоў час спыніць адраджэнне вуніі на Беларусі, а прыступіць да адраджэння беларускай нацыі!

Чытаючы «Наша Слова», прыпамінаю вуніяцкую газэту «Бацькаўшчына» і часопіс а. Сіповіча (пазнейшага епіскапа) «Божым Шляхам» і сённяшні «Беларус». «Наша Слова» са слязьмі ў вачах падціраe слёзы вуніяту Акуле ў Канадзе, бо ён, бачыце, спявае ў «праваслаўнай» царкве гімн «Магутны Божа». «Наша Слова» напісала, што гэты гімн спяваюць беларусы-каталікі ў сваіх касцёлах. Цяпер жа трэба знайсці праўду. Дзе тыя беларусы-каталікі, іхнія касцёлы? Дзе тыя Акулавы «праваслаўныя» цэрквы, у якіх ён спявае гімн «Магутны Божа»? На эміграцыі вуніяты сваёю прапагандаю загналі беларусаў-католікаў у польскія касцёлы, і беларусы перасталі называць сябе беларусамі, а палякамі. У Англіі, у Лондане, ёсць толькі адна вуніяцкая капліца, і яна называецца каталіцкая царква ўсходняга абраду, дзе службу адпраўляе а. Надсон, былы праваслаўны. Туды збіраецца жменька вуніятаў, былых праваслаўных, і адзін католік, каб ад часу да часу спаткацца з сваімі калегамі, трыма ці чатырма праваслаўнымі, якія ўжо адною нагою ў павуцінні вуніятаў. У Лондане ёсць беларускі праваслаўны прыход у юрысдыкцыі грэцкага епіскапа, вось жа яны выдаюць свой часопіс «Голас Часу». У Манчэстэры ёсць беларускі праваслаўны прыход таксама ў юрысдыкцыі грэцкага епіскапа.

Ёсць у Манчэстэры яшчэ адзін беларускі «праваслаўны» прыход, але «прыхаджане» не ведаюць, у якую юрысдыкцыю яны належаць, бо прыход тварылі вуніяцкія свяшчэннікі, а настаяцеля прыхода вучыла і свяціла вуніяцкае духавенства ў Бельгіі. Жменька вуніятаў на эміграцыі пры помачы ватыканскіх місыянераў, валодаючы вялікімі фінансамі з Ватыкану, змаглі разбіць беларускую эміграцыю паводле веры і палітыкі. Паводле веры яны арганізавалі «праваслаўныя» цэрквы і прыходы польска-ватыканскага ўхілу. Паводле палітыкі яны адважыліся арганізаваць «законную» БНР, падстаўляючы хвальшывага прэзыдэнта Абрамчыка, як быццам бы яму перадаў «тэстамэнт» Захарка. З гэтым хвальшам яны дажылі да сянняшняга дня і з кішэні ў кішэню перадаюць «тэстамэнт» адзін другому. Сяння гэты хвальшывы тэстамэнт носіць у кішэні вуніят Сажыч. Трывожна, паважаны В. Краслаўскі, бо другая рэвалюцыя падгатоўваецца на Беларусі не сталінскімі камуністамі, а вуніятамі польска-ватыканскага ўхілу, каб «адчыніць дзверы на Захад», а гэта злучыцца з Польшчаю. Таму яны стараюцца пасварыць беларускі праваслаўны народ з рускім праваслаўным народам, каб не дапусціць нават да эканамічнага саюза і да саюза суверэнных незалежных рэспублік.

Трывожна? Таму адраджэнне вуніяцтва на Беларусі трэба спыніць!

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

**АД РЭДАКЦЫІ: Публікуючы лісты нашых чытачоў Мікалая Панфілюка з Польшчы і Сяргея Шчэрбы з Англіі, хочам сказаць наступнае: рэдакцыя не падзяляе ў поўнай меры погляды на ўзнятыя ў іх допісах праблемы і не становіцца на бок ні аднаго з аўтараў. Мы хочам толькі паказаць, што няма адзінства і добрай волі зразумець пункт гледжання іншага і дайсці да згоды як сярод беларусаў на Бацькаўшчыне, так і сярод беларусаў замежжа. Гэта прыкра, але так. І гэта, напэўна, нам найбольш шкодзіць.**

**Прытрымліваючыся прынцыпаў, што кожны наш чытач мае права на свае меркаванні, мае права быць пачутым, мы і надалей будзем даваць слова на старонках «Голасу Радзімы» ўсім, хто мае што сказаць. А пакуль — чакаем водгукаў на лісты М. Панфілюка і С. Шчэрбы.**

# КРЫШЫЦЦА ЛЁД ПАДАЗРОНАСЦІ

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Сэрца цешыцца, што наша дарагая Айчына Беларусь ужо незалежная і флаг бела-чырвона-белы ўзвышаецца на сваім належным месцы. Цяпер закасаць свае рукавы і брацца за справу ўсім землякам. І на першым месцы я лічу — аднавіць родную беларускую мову і каб яна была ў вялікай пашане. Хопіць беларусам «чырыкаць» па-расейску. А хто «забыўся» сваю мову, дык няхай навучыцца ёй. І як трэба. Трэба аднавіць сваю культуру і фальклор, а таксама гісторыю і на гэты раз ужо праўдзівую, без белых плямаў. На месцы помнікаў Леніну лепш паставіць крыжы і капліцкі, і гэта будзе лепшы эфект і карысць. Будуць людзі прыпамінаць нашу спадчыну і адчуваць пашану да жывога Бога.

А вуліцам гарадоў і мястэчак, каторыя аж раяцца ад бальшавіцкіх назваў, дык варта надаваць назвы тыпова беларускія, ушаноўваючы памяць аб нашых героях, паэтах, пісьменніках, вучоных, духоўных падзвіжніках і філосафах. А тое, што звязана з камунізмам, скасаваць. Бо яны ўжо аджылі свой век. Усё гэта трэба рабіць паступова і без гарачкі і эмоцый. І нявартa помсціць камуністам, каторыя маюць чыстае сумленне, а нават і тым, якія саграшылі ў нечым. Дык нявартa іх зачапляць, і няхай жывуць спакойна, абы толькі не шкодзілі іншым у гэтым новым прагрэсіўным укладзе сіл, і няхай лепш іх Бог судзіць. Трэба аднавіць усе ацалелыя святыні—цэрквы, хаця яны мо і ў руінах, і трэба гэта рабіць грамадскім чынам і ў духу хрысціянства. Бо вядома, што для новага ўрада не на ўсё хопіць грошай.

Трэба аднавіць усялякія будынкі (замкі, палацы), якія маюць гістарычную вартасць. Гэта вельмі важная справа. У «Голасе Радзімы» публікуйце часцей старадаўнія беларускія песні з нотамі, тыя песні, якія былі забаронены пры камунізме альбо лічыліся ўжо «аджытымі». Бо кожная песня, верш ніколі не трацяць сваёй вартасці і сэнсу. Вядома, не будзем гаварыць аб гэтых «салёных» дурніцах, якіх таксама багата. І сёння непаважлівыя людзі выдумляюць гэта замест таго, каб свой талент улажыць на нешта добрае і карыснае для ўсіх.

Дарагія сябры! Сэрца цешыцца, што многія (на жаль, не ўсе) беларускія змагары і патрыёты, якія жывуць на Захадзе і якія да нядаўна лічыліся «ворагамі народа», дык пра іх пачалі на Беларусі думаць інакш, па-гуманнаму і нават запрашаць да сябе ў госці. Гэта вельмі добра, што лёд падазронасці, варожасці пачаў ужо крышыцца. І час найвышэйшы, каб і такія людзі, як Кастусь Акула, Ян Пятроўскі, былі рэабілітаваны (хаця мо гэта звучыць дзіўна) урадам Рэспублікі Беларусь. Дык спадар Кастусь Акула — адданы патрыёт беларускага народа і пісьменнік, і яго трылогія «Гараватка» павінна быць выдадзена ў Беларусі і вялікім тыражом. І яго кніжкам месца толькі на Беларусі. Гэта адносіцца і да спадара Яна Пятроўскага, які жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Ён таксама вельмі многа напісаў цудоўных кніжак і перакладаў з Плятона, а ў апошні час піша свае цудоўныя ўспаміны-мэмуары, першы том — частка напісанага надрукавана, скора і другая частка будзе закончана. Шануйце такіх людзей! Такіх, каго ўспамінаў вышэй: Кастуся Акулу, Яна Пятроўскага і іншых патрыётаў. Ім абавязкова трэба вярнуць належнае месца ў беларускай літаратуры, а іх творы друкаваць на Радзіме.

Паважаныя сябры-беларусы! На старонках «Голасу Радзімы» некаторыя нашы суайчыннікі з-за рубяжа замнога зачапаюць беларускіх вуніятаў, проста мяшаюць іх з балотам. А чаму такая нянавісць да гэтых людзей? У дэмакратычнай дзяржаве кожны мае права выбраць сабе любую рэлігію і веравызнанне і ніхто не мае права мяшацца ў такія справы. А тое, што беларускія вуніяты цвёрда трымаюцца сваёй роднай мовы і іх бацюшкі ў цэрквах прапаведзі свае гавораць і вядуць па-беларуску, дык гэта кепска? Праваслаўныя айцы ў нашых цэрквах такое штосьці выключна вядуць па-расейску. І хто з іх лепшыя патрыёты? Ці айцец А. Надсон — наш вораг? Адкажыце! На тым канчаю. Жадаю вам усяго найлепшага.

**Ваш Мікалай ПАНФІЛЮК.**

Польшча.



Музей народнай творчасці ў Моталі. Фота Я. КАЗЮЛІ.

# САМЫ ДАРАГІ ПАДАРУНАК— ПРАЎДЗІВАЕ СЛОВА ПРА БЕЛАРУСЬ

Паважаная рэдакцыя!

Калі чытаў я ў 39-м нумары «Голасу Радзімы» (за 26.9.91 г.) пра нямецкага мастака — нашага земляка Анатоля Чайкоўскага (жыве ён каля Мюнхена), мне прыгадалася «Беларуская анталогія» аўстрыйца Фердынанда Нойрайтэра. Гэта кніга выдадзена таксама ў Мюнхене, і цікавая яна тым, што побач з нямецкім перакладам твораў беларускіх аўтараў змешчаны і арыгінальны беларускі іх змест. Дазваляе гэта і беларусам, і немцам карыстацца ёю.

Чытаў я ўжо некалі ў беларускім друку пра гэта выданне даволі крытычныя заўвагі. Крытыкавалі перш за ўсё змешчаныя там творы некаторых беларускіх эмігрантаў.

Як жа ўсё цяпер змянілася. Сягоння — у гэтым самым нумары «Голасу»—бачым папрок у адрас Б. Сачанкі за тое, што ў сваёй кнізе знаёміць нас не з усёй эміграцыяй, а з самай «найменшай яе часткай».

Я, жадаючы, каб беларускае грамадства і замежныя чытачы абавязкова пазнаёміліся з працай Сачанкі, каб доўга не чакалі на шырокую папулярнасць і абяцаных, больш грунтоўна апрацаваных выданняў, якія прыблізілі б чытачам праўду пра скарбы агульнанацыянальнай культуры беларусаў, хацеў бы прапанаваць, каб і кніга Нойрайтэра, якая, калі не памыляюся, была першай прыбліжаючай нямецкамоўнаму чытачу беларускіх літаратараў і іх творчасць, здабыла большую папулярнасць. Нам неабходна намагацца, каб пра нашу культуру ведалі на ўсіх кантынентах, каб нас знали не горш, чым рускіх, англічан, французаў ці немцаў. І хаця б таму мы мусім імкнуцца больш пашыраць інфармацыю пра нашу культуру і гісторыю, што амаль ва ўсіх кутках свету з прычыны долі ці нядолі жывуць і нашы землякі, каторым кожнае праўдзівае слова пра нашу Бацькаўшчыну з'яўляецца самым дарагім падарункам.

**А. МАЎЧУН.**

Польшча.

# «...ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁСТАНЦЫЯ «СВАБОДА»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

прагімназію, я пайшоў у гандлёвую школу на 3-ці курс. Гэта быў 1944 год. Заставацца ў Баранавічах з наступленнем Савецкай Арміі было небяспечна. Мы ўжо ведалі, як распраўляліся з «ворагамі народа»...

У Нямеччыне апынуўся ў лагеры для перамешчаных асобаў спачатку ў Рэгенсбургу, пасля ў Міхельсдорфе... Самаахвярныя настаўнікі заснавалі ў Нямеччыне гімназію імя Янкі Купалы. Хаця не было сшыткаў, кніжак, але мы атрымлівалі добрыя веды. Пасля сканчэння гімназіі група моладзі была год скаўт-майстрамі. А з пачатку 1948 года выехалі ў Ангельшчыну: была нагода ўладзіцца на работу на шахтах. Мы, група з 12 чалавек, ехалі туды з думкай вучыцца далей, неяк трапіць ва універсітэт. Падпісалі паміж сабой такі кантракт, дамову, дзе абавязаліся трымацца разам, памагаць адзін аднаму. Вырашылі выдаваць свой лісток, каб захаваць сувязь з сябрамі, што засталіся ў Міхельсдорфе. Пасля той бюлетэньчык вырас у часопіс «Наперад». Кожны з нас пісаў туды тое, што мог і як мог. 26 нумароў гэтага саматужнага выдання засталося для гісторыі. Дзякуючы часопісу, пра нас даведаліся ў беларускім студэнцкім асяродку ў Бельгіі, запрапанавалі прыехаць у Лювэнскі універсітэт па навуку. Адправіліся 9 чалавек, і кожны паступіў вучыцца. Я скончыў гістарычны факультэт. Тады, у 1954 годзе, была арганізавана радыёстанцыя «Вызваленне», куды я пайшоў працаваць у беларускую рэдакцыю. А ў 1957 годзе выехаў з Мюнхена ў Амерыку. Зноў жа, хацеў за ўсякую цану далей вучыцца. А ў Мюнхене ў мяне не было такіх фінансавых магчымасцей, спадзяваўся, што ў Амерыцы неяк праб'ю дарогу.

**У Амерыцы Янка Запруднік, наш з вамі зямляк, прабіў сабе дарогу. Але нічога і тут не давалася лёгка. Што такое журналісцкая праца, я цудоўна ведаю—вымотвае ўсе сілы.**

**Пасля абароны «дактарату» спадар Янка Запруднік пяць гадоў выкладаў па вечарах гісторыю Расіі і Савецкага Саюза ў Квінскім каледжы як асістэнт прафесара. А акрамя гэтага, доўгі час рэдагаваў газету «Беларус», удзельнічаў у выданні манаграфіяў і гадавікоў «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.**

**Тое, што па сваіх перакананнях спадар Запруднік антыкамуніст, давала ў мінулым падставы нашым уладам ставіцца да яго як да ідэйнага ворага, шкоднага для Беларусі чалавека. Ну і адпаведна «ўся варожая прапаганда» «Свабоды» глушылася ў эфіры.**

**Цяпер наконт радыё «Свабода». Яно было заснавана ў пачатку 50-х гадоў як частка радыёстанцыі. Другая яе частка— радыё «Свабодная Еўропа». Радыё «Свабода» спецыялізавалася на вяшчанні для народаў СССР, а «Свабодная Еўропа» — для краін сацыялістычнага лагера. Абедзве гэтыя ўстановы, як гаворыцца, пад адным менеджментам, працуюць у цеснай узаемасувязі. Мэта дзейнасці радыёстанцыі, па словах кіраўніка Беларускай службы радыё «Свабода» Вячкі Станкевіча, — «трансляванне інфармацыі з вольнага свету ў замкнёныя яго рэгіёны». Супрацоўнікі радыёстанцыі, дарэчы, абавязаны выконваць пэўныя правілы. Адно з іх: калі перадаюцца весткі, дык яны не могуць быць узяты з адной крыніцы, а павінны быць пацверджаны і з іншай — незалежнай. Другое: захоўваць прынцып аб непадбухторванні. Што ж датычыцца абвінавачванняў радыёстанцыі ў супрацоўніцтве з ЦРУ, то яны, безумоўна, не беспадстаўныя. Бо яшчэ гадоў дзесяць назад радыё «Свабода» атрымлівала фінансавую падтрымку ад ЦРУ. Вось як тлумачыць гэта Вячка Станкевіч: «Для кожнае разведкі інфармацыя вельмі важная — гэта падстава дзейнасці. ...У сувязі з тым, што радыёстанцыя была адным з найбольшых даследчых інстытутаў Заходняй Еўропы, частка нашай інфармацыі была карысная і для ЦРУ— дзеля таго яны лічылі патрэбным даваць грашовую падтрымку радыёстанцыі. ...Цяпер радыё «Свабода» афіцыйна фінансуецца Кангрэсам Злучаных Штатаў Амерыкі».**

**...Спадар Янка Запруднік у той дзень паказаў мне збольшага апартаменты «Свабоды»: вялікую бібліятэку, кабінеты з камп'ютэрамі, асобныя кабінкі для працы, дзе журналіст можа як бы адасобіцца ад усіх. Хаця, як мне здалося, амерыканскія журналісты могуць працаваць і не адасабляючыся: сядзяць у агульнай зале, і кожны друкуе на машынцы нешта сваё...**

— Вы ведаеце, што такое факт? — ці пытаецца, ці разважае спрактыкаваны ў журналісцкіх справах Янка Запруднік. — Гэта як той мяшок. Каб стаяў яго трэба запоўніць пяском. Кожны факт патрабуе сваёй інтэрпрэтацыі. Скажам, адзін і той жа факт можа зусім па-рознаму ўспрымацца і асвятляцца. Для Бумажковай, што актыўна дзейнічае на журналісцкай ніве ў Беларусі, Сталін — гэта адзін факт, для нас, эмігрантаў, — другі. Разумееце, што я кажу. А ўвогуле нашая функцыя — інфармацыйная. Калі гаварыць пра беларускую праграму як нешта цэласнае, то ў асноўным гэта паведамленне вестак аб тым, дзе і што робіцца. Мы стараемся цяпер як бы дапаўняць сродкі інфармацыі на Беларусі, паведамляць тое, пра што яшчэ замоўчваецца ў вас, не гаворыцца ўслых.

**Аказваецца, усяго двое штатных супрацоўнікаў беларускай службы радыё «Свабода» працуе ў Нью-Йорку. Спадар Янка Запруднік і яго маладзейшы калега Адам Акуліч. Адаму — пад 40. Адзінаццаць гадоў назад ён эмігрыраваў з Беларусі. Па адукацыі — акцёр. Скончыў у свой час Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, працаваў у тэатры юнага гледача і ў акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску.**

— Я быў страшэнны ідэаліст у маладыя гады, — расказвае А. Акуліч. — Калі пачаў працаваць у тэатры пасля інстытута, то, памятаю, выступаў на сходзе трупы і казаў, што грошы не трэба плаціць акторам, а трэба даваць добрыя спектаклі. Я думаю, не толькі інстытут вінаваты ў гэтым маім ідэалізме. Гэта проста быў такі характар. Але, працуючы далей і ў ТЮГу, і ў купалаўскім тэатры, і ў Ленінградзе, я пазбавіўся ідэалізму. Бо сутыкнуўся з адкрытай карупцыяй, з мафіяй. І гэта для мяне было трагедыяй. Гэта быў той момант, які абсалютна разбіў мяне. Я тады быў перакананы, што перспектывы ніякай наперадзе няма. Прыняў рашэнне ехаць на Захад, хаця і не меў ніякага ўяўлення пра тое, што і як буду там рабіць. Адным словам, ехаў у нікуды. Адзінае, што мною рухала і што давала сілы, гэта вера ў наяўнасць свабоды ў Амерыцы. (Бо ў нас, калі ты не кар'ерыст, не прыстасаванец, то проста прапаў). Канешне, у гэтым плане я не памыліўся наконт Захаду. Фактычна тут чалавек, які можа працаваць, не прападзе, абавязкова знойдзе прымяненне сваім здольнасцям. Хаця і тут, я заўважу, цяжкасцей таксама хапае.

**— Вы прыйшлі на «Свабоду» 7 гадоў назад як карэспандэнт культурна-літаратурнага накірунку. А цяпер, наколькі я ведаю, вас больш «грэюць» эканамічныя тэмы. Ці патрэбна вам была нейкая спецыялізацыя!**

— Увогуле кожная рэдакцыя мае сваіх спецыялістаў як штатных, так і пазаштатных, якія пішуць на эканамічныя, культурныя ці палітычныя тэмы. Тут, у Нью-Йорку, мы ўдваіх. А ў Мюнхене яшчэ чалавек 10—12. Кожны павінен мець даволі шырокі спектр ведаў, валодаць паралельнымі і нават зусім далёкімі ад яго ўлюбёнай тэмамі. Таму што ў нас у рэдакцыі супрацоўнікі павінны ўзаемазамяняць адзін аднаго, быць у прынцыпе універсаламі.

Маё ж зацікаўленне эканамічнымі тэмамі зусім не выпадковае. Думаю, што эканоміка — фундамент усяго. Асабліва актуальная эканамічная сітуацыя для жыхароў Беларусі менавіта цяпер.

**— Вы жывяце ўяўленнямі 11-гадовай даўнасці аб Беларусі ці ездзілі туды!**

— У мяне пад рукамі шмат матэрыялаў. Амерыканскі друк мае шмат карэспандэнтаў, якія бываюць у Беларусі і аналізуюць эканамічную сітуацыю. На Захадзе ёсць шмат такіх рэзюме, аналізаў, каментарыяў прафесійных — іх інстытут Гарымана робіць. Таму зусім не абавязкова ездзіць карэспандэнту. Добра, зразумела, калі ёсць людзі, якія пастаянна інфармуюць нас.

**— А ці ёсць у рэдакцыі нейкае планаванне, штодзённае ці перспектыўнае! Як вы рыхтуеце праграму!**

— Безумоўна, кожны дзень праграма мае сваю арыентацыю. Вось паглядзіце, як мы працуем з камп'ютэрам. Сістэма камп'ютэра мае ліст, на якім ідуць рэкамендуемыя тэмы. Гэта тое, што актуальна сёння ў свеце і што можна было б выкарыстаць у нашай праграме. Праграма рыхтуецца блокамі. Кожная складаецца з 5-10 блокаў. Спачатку галоўныя міжнародныя падзеі, пасля падзеі ў Савецкім Саюзе, рэспубліцы, культурная інфармацыя і гэтак далей. Карыстаемся паведамленнямі агенцтваў з усяго свету. З Савецкага Саюза я аддаю перавагу ТАСС. Апошнімі месяцамі ТАСС сталася аператыўным агенцтвам, перайшоўшы пад апеку прэзідэнцкага Савета. Прысылаюць інфармацыю карэспандэнты.

**— Якой вам уяўляецца эканамічная сітуацыя ў Беларусі!**

— Я думаю, што яна не лепшая, чым наогул у Савецкім Саюзе. Людзі, якія прыязджаюць з Беларусі, расказваюць, што ў Менску лепш з забеспячэннем харчамі, чым у іншых рэгіёнах. Але гэта ўсё адносна. Тэндэнцыя эканамічнага спаду, вострага крызісу відавочная, нават паглыбляецца шмат з якіх прычын. Першая прычына і галоўная — гэта тармажэнне рэформаў кампартыяй. Партыі сёння ніхто не дае веры, яна поўнасцю сябе скампраметавала. Я хацеў бы выказаць і сваё асабістае разуменне сітуацыі ў СССР. Бывае так, што адзін нейкі перыяд (тыдзень-два) я сімпатызую Гарбачову, вялікаму маніпулятару і палітыку, і пачынаю апраўдваць яго захады. Так, ён мусіць быць пасярэдзіне, знаходзіць кампраміс, сядзець на двух крэслах. А пасля поўнае расчараванне. Бачу, што ён абсалютна не тым займаецца. Тлумачу гэта тым, што прэзідэнт проста не мае рэальнай праграмы. Можа быць і жадае, каб у яго краіне былі і свабода, і хлеб. Але ў Расіі заўсёды так: ёсць хлеб — няма свабоды, ёсць свабода — няма хлеба. Думаю, што ягонае жаданне ўратаваць КПСС, рэфармаваць яе — памылка. Нельга рэаніміраваць утопію. Гарбачоў жа сам сказаў на апошнім пленуме, што марксізм-ленінізм — гэта утопія. Хаця зноў жа за словамі Гарбачова бачу намер перавесці КПСС на рэйкі сацыял-дэмакратыі. Цяпер якраз самы небяспечны перыяд, паміж апошнім пленумам і нечарговым з'ездам КПСС. Менавіта гэты перыяд вызначыць, дзе стаіць партыя, прэзідэнт, Генеральны сакратар, хто ёсць хто.

**— Якімі беларускімі выдан[illegible] вы карыстаецеся з найбольшай ахвотай!**

— Найперш гэта часапіс «Камуніст Беларусі», які я чытаю рэгулярна. Паводле аўтараў, тэм, аналізу палітычнай сітуацыі гэта вельмі змястоўнае вы[illegible]. Па яго публікацыях я сам, за ходам падзей, ведаю, да чаго імкнуцца левыя, што робяць правыя. Ён дае добрую інфармацыю для арыентацыі.

Пасля я б назваў маладзёжны часапіс «Крыніца». Яны як неба і зямля з «Камуністам Беларусі». Гэта два розныя полюсы. У іх розныя пазіцыі, задачы, тэматыка. Мне «Крыніца» найперш цікавая тым, што маладзёжныя праблемы на яе старонках усе на паверхні, пра іх гаворыцца адкрыта. «Вожык» таксама чытаю. Але апошнім часам ён абсалютна не смешны. Згубіў гумар.

**— А журналіст на Захадзе можа быць не палітыкам!**

— Журналіст — абавязкова палітык у любым грамадстве. Воляю выпадку мне давялося стаць журналістам. Я браў курсы — трэба ж было вучыцца, каб пацвердзіць свае крэдыты. І першае правіла, якое я запомніў з лекцыі: «журналіст — чалавек, які ўсё бачыць, усё чытае, да ўсяго прыслухоўваецца, усё заўважае».

**— Ці могуць на радыё «Свабода» выказвацца розныя ацэнкі, ці існуе плюралізм думак!**

— Безумоўная рэч. Асабліва цяпер, калі мы маем карэспандэнтаў з Беларусі. Яны па-свойму і інтэрпрэтуюць падзеі, даюць свае тлумачэнні з'явам. Гэта цікава, дае шматколерную карціну рэчаіснасці.

**— Скажыце, спадар Адам, як вы ставіцеся да таго факта, што, нягледзячы на вялікія перамены ў нашай краіне, на развіццё працэсаў дэмакратызацыі, многія грамадзяне хацелі б эмігрыраваць з Беларусі на Захад! Што вы можаце сказаць ім!**

— Па-першае, небяспечна раздаваць рэцэпты. Калі мне нехта кажа: гэты чалавек сябе не знойдзе ў эміграцыі, я не перакананы, што гэта так і ёсць. Асабіста я, напрыклад, выехаў у абсалютна іншы час. Колькі разоў за гэтыя шэсць гадоў перабудовы я лавіў сябе на думцы, што ўсё-такі ў нас там вельмі цікава. Цяжка, але цікава. Я нават пашкадаваў, што галоўная падзея прайшла міма. Канешне, я разумею, што збоку, з-за акіяна глядзець на ўсе падзеі вельмі проста. Але ўсё-такі, па вялікаму рахунку, калі б перада мной стаяла пытанне пра эміграцыю цяпер, то выбар быў бы адназначны — там. Я растлумачу, чаму. Усё-такі ёсць магчымасць таго, што будзе вольны рынак, гэта не таму, што так хочуць ліберальныя сілы або амерыканскі прэзідэнт, або капіталісты на Захадзе, якія прагнуць упіхнуць свае капіталы ў савецкую эканоміку. І такую магчымасць, шанс я не пакінуў бы незрэалізаваным. Можа я і завялікі аптыміст, але думаю, што за 10-15 гадоў у нас будуць такія ж самыя магчымасці, як і ў Англіі, Амерыцы. Мы не гаворым тут пра тэхнічную рэвалюцыю. Фактычна гэтыя роўныя магчымасці для кожнага сёння складаюць фундамент амерыканскай дэмакратыі. І я перакананы, што той рэгіён, які называўся да 1985 года «даспелым разгорнутым сацыялізмам», будзе той самай зонай прадпрымальніцтва, у якой мільёны людзей знойдуць сябе. З'явяцца такія ж самыя незалежныя бізнесмены, як тут, на Захадзе.

Як бы добра ні было ў чужой краіне, усё-такі жаданне чалавека і мара яго — быць на сваёй зямлі. Кажу гэта не таму, што маю настальгію. Думаю, што ў старэйшых людзей гэта больш асэнсавана і нават больш мудра сказана. Да мяне гэта толькі пачынае прыходзіць. І не без дапамогі той гарбачоўскай перабудовы. Цяпер я перакананы, што там усё можа быць! А раней жа я быў упэўнены, што там не можа быць нічога.

**— Ці верыце вы ў Бога!**

— Хаця я і лічу сябе атэістам, але думаю, што і ў кожнага атэіста ёсць свой Бог. Я думаю, мой Бог — гэта Бог роўнасці. Усе людзі нарадзіліся аднолькавымі. Але чамусьці адзін лепш маецца, а другі — горш. І вось гэтая сацыяльная несправядлівасць мучыць.

**— У вас амаль што камуністычныя перакананні...**

— Не жартуйце. Камуністычная ідэалогія — гэта тэзісы, маніфесты. Хаця «Камуністычны маніфест» — гэта надзвычайны дакумент. Калі б камуністы, бальшавікі, КПСС думалі пра сацыяльную справядлівасць — карупцыі не было б. На словах адно, на справе іншае.

... Можна было б падзякаваць спадару Адаму Акулічу за цікавае інтэрв'ю, спадару Янку Запрудніку — за магчымасць пабываць на «Свабодзе» і развітацца. Але ж не ўстрымаюся ад кароткага каментарыя. Сустрэча наша адбывалася можа за які тыдзень да падзей, што ўскалыхнулі ўвесь свет — жнівеньскага путчу. Прагнозы Адама Акуліча наконт архіважнасці сучаснага гістарычнага моманту і хуткага самавызначэння асноўных палітычных сіл у нашай краіне аказаліся надзвычай правільнымі. І яшчэ адна дэталь. У той час, як па вуліцах Масквы грукаталі танкі, наводзячы жах на мірных жыхароў, савецкае радыё і тэлебачанне перадавалі класічную музыку, як заўсёды, пазбавіўшы людзей усякай інфармацыі. Затое бесперапынна давала яе сваім слухачам радыёстанцыя «Свабода». Яе карэспандэнты ў Маскве вялі прамыя рэпартажы з месцаў падзей і перадавалі іх па спадарожнікавай сувязі ў Мюнхен і Нью-Йорк. Барыс Ельцын пасля путчу акрэдытаваў карэспандэнтаў «Свабоды» ў Маскве.

Напэўна, прыйшоў час падумаць пра гэта і Мінску.

**Таццяна АНТОНАВА**





З Гроднам звязана самая шчаслівая пара ў жыцці Максіма Багдановіча. Бацькі пераехалі туды, калі хлопчыку не было і года. У сваіх успамінах пра сына Адам Багдановіч, згадваючы гродзенскі перыяд жыцця, піша: «Умовы для выхавання дзяцей былі спрыяльныя: на двары садзік, кругом сады, палі, непадалёку лес, ды і Нёман недалёка. Дзеці ўвесь час на чыстым паветры, клімат мяккі. Вольны час я аддаваў дзецям, каб аблегчыць клопаты маці, у якой праз два гады пасля Максіма з'явілася новае дзіця — сын Лёва. Я часта браў іх на прагулку і ў поле, і ў лес, і на Нёман, цягаў Максіма, як меншага, за плячыма. Акрамя мяне, маці нікому дзяцей не давярала, а дома пры іх знаходзілася пастаянна».

Марыя Апанасаўна, маці паэта, вельмі любіла сваіх дзяцей і аддавала іх выхаванню сваё сэрца. Яна прыдумвала для іх гульні і забавы, радавалася і смяялася разам з імі. Вяртаючыся са службы, бацька яшчэ ў двары чуў вясёлы гоман і беганіну.

У 1896 годзе маці не стала. Максіма напаткала першае вялікае гора. Неўзабаве сям'я пераехала ў Ніжні Ноўгарад.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі Дзён М. Багдановіча ў Гродне каля магілы маці паэта; у гэтым доме жыла сям'я Багдановічаў; ў музеі паэта гучалі беларускія народныя песні, людзі ўшаноўвалі яго памяць.

Фота Я. КАЗЮЛІ.



# БЕЛАРУСЬ ВЯРТАЕЦЦА Ў ЕЎРОПУ

Музычнае жыццё ў Мінску азнаменавалася дзвюма нябачанымі дагэтуль падзеямі: не паспеў адгучаць першы ў сваім родзе фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы», прысвечаны беларускай музыцы эпохі барока і класіцызму, як на наступны дзень — зноў адкрыццё — Міжнародны фестываль сучаснай камернай музыкі. І ў гэтай «сустрэчы» двух фестываляў хацелася бачыць не пралікі планавання, а своеасаблівы сімвал — знак вяртання беларускай сусветнай культуры ў рэчышча агульнаеўрапейскіх і сусветных мастацкіх тэндэнцый.

І праўда, пасля стольніх гадоў штучнай ізаляцыі ад знешняга мастацкага свету мы са здзіўленнем і гонарам раптам усвядомілі, што і ў XVII — XVIII стагоддзях, і сёння беларускія кампазітары пісалі і пішуць на еўрапейскім узроўні. І сведкі гэтага сотні слухачоў, якія запаўнялі залы абсалютна ўсіх канцэртаў абодвух фестываляў.

Такі натуральны пераход аднаго фестывалю ў другі стаў арганічным яшчэ і таму, што адкрывалася «Адраджэнне беларускай капэлы» арыгінальнейшымі «Курантамі» В. Капыцька—творам, напісаным сучаснай мовай «па матывах» рукапіснага зборніка 1733 года, які аднолькава належыць як мінуламу, так і сучаснасці. Дарэчы сказаць, старадаўняя музыка на гэтым фестывалі амаль не гучала ў сваім першапачатковым выглядзе — музыканты часцей прапаноўвалі розныя апрацоўкі, што прадугледжваюць тую ці іншую ступень кампазітарскага і выканаўчага ўмяшання ў першакрыніцу.

Многа адкрыццяў было і на Міжнародным фестывалі сучаснай камернай музыкі, куды з'ехаліся музыканты з Польшчы, Балгарыі, Фінляндыі, Швецыі, Германіі і ЗША, Літвы, Латвіі, Татарстана, Узбекістана, Украіны і Расіі.

За святамі ідуць будні, за фестывалямі — карпатлівая праца па падрыхтоўцы новых. Арганізатары «Адраджэння» ўжо сёння думаюць аб яго працягу, аб магчымасцях правядзення фестывалю музыкі кампазітараў-беларусаў, якія жывуць за мяжой.

Н. БУНЦЭВІЧ.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# Пра тура і Тура

Тур—гэта першабытны вымерлы бык. Па выгляду ён падобны быў на зубра і адрозніваўся ад яго «чорнай з белай паласой уздоўж хрыбта». Меў распаўсюджанне ва ўсходнім паўшар'і. Як сведчаць пісьмовыя дакументы, апошні тур быў забіты ў Польшчы ў 1627 годзе. Пра яго пісалі Пліній, Сенека, Марцыян, Юлій Цэзар і іншыя. Тур славіўся сілаю, хуткасцю і быў прадметам палявання храбрых, палявання князёў. На яго паляваў, напрыклад, Уладзімір Манамах (1096 год). Тур упамінаецца ў «Слове пра паход Ігаравы»; у Іпацьеўскім летапісе. З рога жывёлы рабілі музычны духавы інструмент, аздаблялі яго каштоўнасцямі, шырока прымянялі ў быце шкуру. Грозная жывёліна апявалася як у старажытнай літаратуры, так і ў вуснай народнай творчасці.

У некаторых летапісах, што былі скіраваны супраць «паганства», упамінаецца, як на ігрышчах вадзілі тура-сатану. Упершыню ў пачатку XIX стагоддзя стаў Турам цікавіцца піянер славянскай фалькларыстыкі З. Даленга-Хадакоўскі. Па сведчанню вядомага дарэвалюцыйнага міфолага А. Афанасьева, вясенняе свята Турыцы было шырока вядома ў славян; у Галіцыі Турыцы святкавалі ў пачатку мая ці на Зялёным тыдні; у чэхаў першае мая вядома, як кароўе свята: у гэты дзень дзяўчаты чысцілі і пасыпалі пяском хлявы, упрыгожвалі свойскіх жывёл кветкамі і зялёнымі галінкамі, давалі ім хлеб, мазалі мёдам і затым пры гуках вясковай музыкі гналі статак на пашу, спявалі песні. У паўднёвых славян Турыцы былі на Масленіцу, у заходніх—каля Тройцы. У беларускім земляробчым календары назіраецца найбольшая ўвага да свойскай жывёлы на некаторых зімовых і вясновых днях.

Дарэвалюцыйныя даследчыкі фальклору А. Афанасьеў, П. Галубоўскі, А. Фаміцын лічылі тура мясцовым язычніцкім бажаством і ўпадаблялі яго Перуну, Ярылу. А. Афанасьеў, напрыклад, бачыў сувязь яго з Перуном на аснове загадак: «Раўнуў вол за сто гор, за сто рэчак» (гром), «Тур ходзіць па гарах, Турыца—па далах; Тур—то свісне, Турыца—то мігне» (гром і маланка) і з іншых назіранняў. Супрацьлеглую думку выказалі А. Кірпічэнкаў, М. Сумцоў, якія не бачылі ў туры язычніцкае бажаство. Этнограф М. Сумцоў у спецыяльнай рабоце «Тур у народнай славеснасці» (1887) прааналізаваў прадмет пытання ў такіх невялікіх раздзелах, як «Гісторыка-заалагічныя звесткі пра тура», «Тур у асабовых імёнах,.. у мясцовых назвах,.. у маларускіх прымаўках,.. у маларускіх песнях,.. у вялікарускіх былінах,.. у абрадах». Даследчык разглядае тура як паэтычны і рытуальны персанаж.

Акадэмік Б. Рыбакоў бачыць у знойдзеных археалагічных радзіміцкіх падвесках з адлюстраваннямі галавы быка і сямю дзявочымі фігуркамі сляды абраду Турыц, падобных да грэчаскіх таўракатапсій. На Турыцы насілі маскі тура. На той жа радзіміцкай зямлі ў некаторых раёнах на навагоднія святы «вадзілі тура», абрад якога падобны на «ваджэнне казы». У беларускай народнай гульні «Бычок» выяўляюцца сляды культу быка, «буй-тура», «яр-тура». Да XIX стагоддзя ў нашчадкаў дрыгавічоў і вяцічаў захоўваліся галаўныя ўборы з «тур'імі» рагамі. У Кіеве была знойдзена «Турава бажніца». У многіх тапанімічных назвах Беларусі захоўваецца корань «тур»: Тураў, Туркі, Турная і інш.

Цікавы фактычны матэрыял «Гульня ў Тура» быў змешчаны ў часопісе «Живая старина» ў 1894 годзе В. Машковым. Аўтар нататкаў змясціў і варыянты старажытнай гульні, запісаныя ў вёсках Малая Д[illegible]овіца, Харошынка і Пішчац Бельскага павета Сядлецкай губерні. Цяпер гэтыя населеныя пункты знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Польшча. Гульнёвы карагод («горад») праводзіўся вясною. У «горадзе» і за ім—па дзве дзяўчыны, якія, узяўшы адна адну за стан, як пры «польцы», ходзяць уздоўж круга ў супрацьлеглыя бакі і па чарзе спяваюць песню:

**— А Тур сваі жаночкі лычыць,**
**А Тур сваі маладэнькі.**
**Нашчо, Туру, жаночкі лычыш!**
**Нашчо, Туру, маладэнькі!**
**— Каб м'ня вывюў з чэрэшнега саду**
**Каб м'ня вывюў з зэлененькага.**
**— Чаго, мыла, да саду ходыла!**
**— Чэрэшнёвы квіты ламала.**
**— Нашчо, мыла, квіты ламала!**
**— Пановычу-дзяковычу за шапачку клала,**
**Пановычу-дзяковычу маладэнькаму.**
**— Нашто, мыла, за шапачку клала!**
**— Каб м'ня вывюў з чэрэшнега саду,**
**Каб м'ня вывюў з зэлэненькага.**
**— А дэ, мыла, каня падзіла!**
**— Ой аддала пановычу,**
**Пановычу-дзяковычу маладэньку.**
**— Нашчо, мыла, пановычу дала!**
**— Каб м'ня вывюў з чэрэшнега саду,**
**Каб м'ня вывюў з зэлэненькага.**

Песня паўтараецца некалькі разоў з заменаю слова «каня» на «ўздэчку», «сядло», «шапку», «сюрдук», «пояс» і «чобуты», а затым спяваецца:

**— А дэ, мыла, кашу падзіла!**
**— Выкінула пад прыпечак.**
**— Нашчо, мыла, кашу выкідала!**
**— Жэб не було мылому істы.**

Наступная песня гульні спяваецца на іншы матыў:

**— А я перстэнь пакачу,**
**Так і жону ізышчу.**
**— А мы перстэнь сзовымо,**
**Так і жоны не дамо.**
**— А я мост ізмашчу,**
**Так і жону ізушчу.**
**— А мы мост зломымо,**
**Так і жоны не дамо.**
**— А мы хліба напеком, так і жону отберым.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ




Цяжка нават вызначыць, да якога жанру адносіцца невялічкая кніга В. Стомы пад інтрыгуючай назвай «На воўчых сцежках», што выдадзена ў «Бібліятэчцы часопіса «Маладосць» у 1991 годзе. Гэта, можна сказаць, своеасаблівыя «нататкі паляўнічага»; да таго ж, аўтар іх — не толькі паляўнічы, а яшчэ і вучоны-даследчык.

Яе «канва» — расказ пра дзіўную гісторыю палявання на зграю ваўкоў, што аб'явілася пасля вайны каля роднай вёскі пісьменніка.

Асноўнае месца ў кнізе займаюць даследаванні жыцця і звычак ваўкоў. Сапраўды ўражвае, колькі звярынай хітрасці і розуму ва ўсіх учынках гэтых лясных насельнікаў.

А вось пра сам працэс палявання, мне здаецца, будзе цікава пачытаць не толькі прафесіяналам, але і недасведчаным: так дасціпна аўтар апісвае ўсе яго таямніцы — ад расшыфроўкі слядоў драпежніка да расстаноўкі паляўнічых на «агнявой пазіцыі»...

Як выглядае вальдшнэп, хто такі тхор, якія сляды пакідае заяц-русак, а якія — бяляк. Пра ўсё гэта таксама распавядае В. Стома ў шматлікіх «лірычных адступленнях». Тут шмат бытавых замалёвак, якія непрыкметна ствараюць каларыт беларускай вёскі. А якія цікавыя мясціны апісвае аўтар, якія незвычайныя жыццёвыя выпадкі!

Застаецца толькі пашкадаваць, што ў кнізе такі малы тыраж — усяго 1 038 экземпляраў.

Вольга БАБАК.

# Пра тура і Тура

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

— А мы хліб ізьімо, так і жоны нэ дамо.
— Мы горылкі нажэнім, так і жону отберым.
— Мы горылку выпьемо, так і жону нэ дамо.
— А мы пыва нажэнім, так і жону отберым.
— А мы пыво выпьемо, так і жоны нэ дамо.
— А мы мэду нажэнім, так і жону отберым.
— А мы мэд выпьемо, так і жоны нэ дамо.
— А мы выно нажэнім, так і жону отберым.
— А мы выно выпьемо, так і жоны нэ дамо.
— А мы дзёгцю нажэнім, так і жону отберым.
Увесь хор:
— А Тур жону злавіў, з ею шкуру садраў.

Пры выкананні апошніх радкоў дзяўчаты, якія хадзілі ўнутры круга, выбягаюць адтуль, а якія хадзілі звонку, іх ловяць. На гэтым гульня і заканчваецца.

У ёй праяўляецца старажытны звычай выкрадання нявесты, калі спаборнічаюць два роды. «Умыканне жоны» таксама праглядаецца і ў іншых гульнях, напрыклад, «А мы проса сеялі», вясельнай гульні «барацьбы дружак», калі хлопцы і дзяўчаты спаборнічаюць у выкананні песень, у якіх высмейваюць адзін аднаго.

У дадатку да гульні В. Машкоў падае, спасылаючыся на этнографа Кольберга, такі факт. Недалёка ад вёскі Пішчац ёсць лес, які называецца «Туравым лесам», або гаем. У ім знаходзіцца камень, які выглядам нагадвае вершніка на кані. «Гэта быў нейкі важны і жорсткі пан, адна з ахвяр якога закляла словамі: «Бадась скаменял!» (г. зн. дай Бог, каб ты акамянеў)»,—заключаецца ў дакуменце. Аўтар міжволі аддаецца фантазіі і пераносіцца ў далёкія дахрысціянскія часы, калі «Тураў лес», магчыма, лічыўся святым гаем, у якім пакланяліся і прыносілі ахвяры жорсткаму бажаству Туру. Камень, мусіць, быў яго ідалам або ўвасабленнем, а песня пра Тура—святым гімнам.

Цяпер, калі сабраны многія факты пра гэтую незвычайную жывёліну, у тым ліку і матэрыялы В. Машкова, з большай верагоднасцю можна адносіць Тура да язычніцкага культу, хаця ён не зафіксаваны ў летапісах як бажаство. Аднак жа існуе не менш фактаў пра Тура, чым пра Ярылу, якога таксама залічваюць многія даследчыкі ў язычніцкія культы.

Алесь ЛОЗКА.

# ЗВАРОТ

## ВЫКАНКОМА САЮЗА ЮРЫСТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА СУАЙЧЫННІКАЎ-ЮРЫСТАЎ, БЕЛАРУСКІХ БІЗНЕСМЕНАЎ І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ, ЯКІЯ ПРАЖЫВАЮЦЬ ЗА МЯЖОЙ

У чэрвені 1990 года на ўстаноўчым з'ездзе створаны Саюз юрыстаў Белар — новая прафесійна-грамадская арганізацы.. Выбраны яго кіруючыя органы. Старшынёй Саюза юрыстаў стаў прафесар Сцяпан Сокал. Створаны абласныя і раённыя аддзяленні саюза, яго фірмы: Рэспубліканскі цэнтр сацыяльна-г завой інфармацыі і навучання, «Справядлів ь праз закон» (распрацоўка праектаў нарматыўных актаў), «Рэгістр» (праграміраванае забеспячэнне юрыдычнай дзейнасці); навучальныя ўстановы: Беларускі інстытут правазнаўства, Школа кіравання; выданні «Юрыдычная газета» і «Бюлетэнь нарматыўна-прававой інфармацыі» і інш.

Выканком Саюза юрыстаў лічыць, што рэалізацыя яго задач па стварэнні ў Беларусі прававой дзяржавы, перабудова эканамічных і палітычных адносін выклікае неабходнасць грунтоўна развіваць сувязі з замежнымі юрыстамі, бізнесменамі, прадпрымальнікамі. І асабліва — з выхадцамі з Беларусі.

Такія сувязі могуць базіравацца не толькі на нацыянальных пачуццях, але і на эканамічнай узаемавыгадзе.

Мы звяртаемся да вас з запрашэннем да супрацоўніцтва па наступных напрамках: уступлення нашых замежных калег у Саюз юрыстаў Беларусі (уступны ўзнос 100 долараў ЗША і 100 долараў ЗША за год); дабрачыннай матэрыяльнай падтрымкі Саюза юрыстаў Беларусі ў мэтах павышэння яго здольнасцей і магчымасцей; развіцця дзелавога супрацоўніцтва з замежнымі кампаніямі і прадпрымальнікамі; падпісання пагадненняў і дагавораў аб прававой абароне і забеспячэнні інтарэсаў замежных прадпрымальнікаў на тэрыторыі Беларусі; стажыроўкі юрыдычных кадраў, падрыхтоўкі іх у навучальных установах зацікаўленых краін; абмену заканадаўчымі, нарматыўнымі матэрыяламі; арганізацыі турызму і інш.

Паважаныя спадары! Калі вас зацікавяць нашы прапановы, калі вы імкнецеся да супрацоўніцтва з Бацькаўшчынай, мы будзем вельмі рады вам.

ВЫКАНКОМ САЮЗА ЮРЫСТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

НАШ АДРАС:
Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. К. Маркса, 24—24. Тэлефон: 27-56-24.
Разліковы рахунак № 06170415/002 МФО 805153 у Знешэканомбанку.

## СПОРТ

ГАНДБОЛ. У Франкфурце-на-Майне завяршыўся розыгрыш Суперкубка па гандболу — трэці турнір, у якім удзельнічалі пераможцы Алімпіяд і чэмпіянатаў свету. Першае месца занялі іспанцы. Значна абноўленая савецкая каманда стала сярэбраным прызёрам. Нашу зборную цяпер узначальвае трэнер з Мінска Спартак Мірановіч. Адным з лепшых па спаборніцтвах за Суперкубак быў беларускі гандбаліст Міхаіл Якімовіч.

КАНЬКІ. Вельмі рана пачалі сёлета спартыўны сезон канькабежцы. На міжнародных спаборніцтвах на Кубак свету ў Аўстрыі мінчанін Ігар Жалязоўскі хутчэй за ўсіх прабег дыстанцыю 1 000 метраў. Яго вынік 1 мінута 14,86 секунды.

ПАРУСНЫ СПОРТ. Беларускія весляры вызначыліся па традыцыйнай Сочынскай рэгаце. Сярод пераможцаў значацца А. Шпілько і Д. Ярмоленка («Лятучы галандзец»), Н. Баранава (клас «Еўропа»). Чэмпіёнкі свету ў класе «470» Л. Маскаленка з Украіны і мінчанка А. Пахольчык занялі трэцяе месца. І ўступілі толькі... мужчынскім экіпажам.

ШАШКІ. На пасяджэнні прэзідыума Усесаюзнай федэрацыі шашак зацверджаны састаў зборнай СССР, які прыме ўдзел у першынстве Еўропы (Францыя, люты-92). Гонар нашай краіны будзе абараняць і гамяльчанін Ігар Рыбакоў. Нядаўна ён заняў другое месца на ўсесаюзным першынстве.

РАДЫЁСПОРТ. Савецкія майстры хуткаснай радыётэлеграфіі трэці раз сталі чэмпіёнамі Еўропы. Асабліва вялікі ўклад у перамогу каманды ўнёс магіляўчанін Андрэй Біндасаў. На яго рахунку тры залатыя медалі.

ФІГУРНАЕ КАТАННЕ. Міжнародныя спаборніцтвы фігурыстаў прайшлі ў Польшчы. Беларускія спартсмены заваявалі тут адно першае — Аляксандр Мурашка і адно другое — Юля Смірнова месцы.



Стукае восень у акно...

Фотаэцюд В. УЛАДЗІМІРАВА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 1861.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12